PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 35 (2259) Год XLIV Беласток 29 жніўня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Рацыя стану

Яўген МІРАНОВІЧ

Некалькі тыдняў таму Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання прызнала суполцы „Рацыя", галоўным удзельнікам якой з'яўляецца Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай, канцэсію на выпуск радыёперадач на звышкароткіх і кароткіх хвалях. Традыцыйна кожная беларуская ініцыятыва выклікае вялікае зацікаўленне з боку польскіх сродкаў масавай інфармацыі і пратэсты мясцовых беларускіх дзеячаў, якія акурат не з'яўляюцца аўтарамі гэтай новай ідэі. Калі тры гады таму Беларускі саюз змагаўся за беларускія тэлеперадачы ва ўзнікаючым Беластоцкім тэлебачанні, найбольш адмоўна пра гэту ініцыятыву выказвалася бэгэкатоўская вярхушка, якая сёння найчасцей гасцюе ў беларускамоўных праграмах. Сёння нечакана супраць беларускага радыё ў Беластоку выступілі арганізатары суполкі Villa Sokrates Сакрат Яновіч і Лявон Тарасэвіч. І хаця сказалі яны шмат слоў, у сапраўднасці невядомыя прычыны іх пратэсту.

З сумнага і прыгнятаючага, з увагі на форму, выступлення Лявона Тарасэвіча ў „Газеце выборчай" (10.08.99) вынікае, што асноўнай прычынай яго пратэсту з'яўляецца асабістая прадузятасць да Яўгена Вапы і Алега Латышонка, галоўных арганізатараў радыё „Рацыя". Паводле аўтара, у нейкі спосаб пашкодзілі яны ў пашырэнні палітычнай і мастацкай папулярнасці мастака сярод беларусаў Беласточчыны. Сакрат Яновіч адклікаецца да нейкай рацыі стану — інакш кажучы: інтарэсаў дзяржавы — бышцам бы беларускай. Паводле яго, беларускае радыё ў Беластоку будзе мацаваць рэжым Лукашэнкі, таму што той знойдзе ў ім публічнага ворага і стане яго паказваць грамадзянам Беларусі, а жыхар гэтае краіны і так не зразумее прапаганды, якая паплыве з Беластока. У свет пайшоў сігнал, што найбольш вядомыя сярод палякаў прадстаўнікі беларускай меншасці не хочуць беларускамоўнага радыё ў Беластоку. Са зразуменнем да іх рацыяў аднеслася салідарніцкая „Газета вспулчэсна" (13.08.99), а са здзіўленнем — ліберальны „Кур'ер паранны" (11 і 13.08.99).

Абедзве польскія газеты чарговы закалот у беларускім асяроддзі ацэньвалі з пункту гледжання польскай рацыі стану. Публіцысты „Кур'ера" падкрэслівалі, што польская рацыя стану патрабуе, каб мясцовы праваслаўны люд як найхутчэй пераўтвараўся з сённяшняй безнацыянальнай масы ў беларускі народ, свядомы свае ролі сярод іншых еўрапейскіх народаў. Для будучыні Польшчы неабыякава — пісаў Марцін Рэмбач — ці ўсходнюю Беласточчыну насяляе свядомы сваёй вартасці народ, ці безнацыянальная маса, падатлівая на папулісцкую інспірацыю. Эндэцкая

[працяг ☞ 3]



Памятны здымак перад рэдакцыяй. Злева: Чэслаў Сэнюх, Міра Лукша, Зянон Пазьняк, Віталь Луба, Сямён Шарэцкі, Аляксандр Максімюк і Хведар Нюнька. Фота Міры ЛУКШЫ

## Такога ж цуда цяжка дзе знайсці

**13 жніўня рэдакцыю „Нівы" наведалі старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XIII склікання Сямён ШАРЭЦКІ і лідэр Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" Зянон ПАЗЬНЯК. Пра сітуацыю ў Беларусі, мэтах і выніках пабыўкі ў Беластоку са спікерам прызнаванага дэмакратычным светам беларускага парламента гутараць Віталь Луба і Аляксандр Максімюк.**

**„Ніва":** ***— Сямён Георгіевіч, як вы ацэньваеце становішча ў Беларусі пасля 20 ліпеня, калі, паводле Канстытуцыі 1994 года, скончыўся тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі?***

**Сямён Шарэцкі**: — Лукашэнку вельмі хочацца быць прэзідэнтам вялікай дзяржавы і — як любы дыктатар — ён хоча ўмацоўваць сваю ўладу не толькі ў межах сваёй дзяржавы, але і пашыраць яе. Беларусь цяпер не мае ядзернай зброі. Ён вельмі-вельмі шкадуе аб тым, што да яго прэзідэнцтва яе вывезлі. З усіх кіраўнікоў дзяржаў толькі адзін ён ездзіў да Мілошавіча і, канешне, каб у яго была ядзерная зброя, дык туды паехаў бы не з пустымі рукамі. Але ж у Расіі, таксама з дапамогай нашай працы (мы падтрымоўваем сувязі з „Правым делом" — у ім Чубайс, родам з Барысава, бацька яго быў ваенным), палітыкі таксама сталі разумець, хто такі Лукашэнка, але адмовіцца ад яго не могуць, таму што ён для іх свайго роду падарунак: чалавек, які кіруе Беларуссю, не хоча, каб была Беларусь, а хоча аб'яднацца з Расіяй. Такога ж цуда цяжка дзе знайсці. Больш таго, цераз Беларусь ідуць расійскія цягнікі, качаюць газ у Еўропу, а Беларусь ад гэтага нічога не атрымоўвае. А расіяне ходзяць сюды амаль як у свой агарод па маркоўку. Напрыклад, міністр замежных спраў гэта палкоўнік ФСБ, міністр унутраных спраў — расійскі генерал (ён кажа, што ён беларус, але нарадзіўся і выхаваўся ў Расіі, можа бацька быў калісьці беларусам), першы намеснік старшыні КДБ таксама расійскі генерал і самае галоўнае, што намеснік старшыні Савета Міністраў, які кіруе беларускай культураю і навукай — палкоўнік расійскай арміі, прычым па адукацыі ён — палітычны правакатар (такая ў яго адукацыя — прафесіянал па правакацыі). Знішчаецца ўсё беларускае, але самі беларусы пачынаюць з кожным днём адчуваць сябе больш і больш нацыяй. Хацелася б, каб неяк хутчэй гэтыя працэсы ішлі. На жаль, рэакцыйную ролю ў гэтым плане адыгрывае Праваслаўная царква. Калі тут, у Польшчы, Царква мае станоўчы ўплыў, то ў Беларусі — наадварот. У касцёлах пачынаюць ужо разумець і служыць па-беларуску. Гэтага не наглядаецца ў праваслаўных. Сам мітрапаліт Філарэт — масквіч і завозіць духавенства з Расіі. На амаль усе пасады рэктараў універсітэтаў, інстытутаў уладамі падабраны такія людзі, якія абяцаюць служыць верна Лукашэнку, значыць, не праводзіць ніякай беларусізацыі. Напрыклад, Казулін — рэктар Мінскага універсітэта, тады, калі яго

[працяг ☞ 4]

## Беларусь – Расія 0:2

Упершыню з часоў атрымання Беларуссю незалежнасці, 18 жніўня ў Мінску адбыўся футбольны матч паміж зборнымі Беларусі і Расіі. Беларусы прайгралі 0:2. Але галоўныя падзеі ў гэты дзень адбыліся не на футбольным полі, а на трыбунах і на мінскіх вуліцах.

За некалькі дзён да гульні сябры Маладога фронту заклікалі заўзятараў футболу падтрымаць сваю каманду бел-чырвона-белымі сцягамі...

[футбол і палітыка ☞ 2]

## Вялікая мастацкая падзея

У панядзелак, 16 жніўня, у варшаўскім Доме мастака адбылося адкрыццё выставы Лявона Тарасэвіча. Выставу арганізаваў Саюз польскіх мастакоў-жывапісцаў, які мае абавязак выстаўляць працы актуальнага лаўрэата прэміі імя Яна Цыбіса, а менавіта такую ўзнагароду атрымаў Лявон Тарасэвіч за 1998 год.

[вернісаж ☞ 3]

## Беларускі фэст у Семяноўцы

Аграмаднай авацыяй прывіталі прысутныя надзвычай папулярны ўжо не толькі ў Беларусі эстрадны калектыў „Сябры" з Мінска пад мастацкім кіраўніцтвам Анатоля Ярмоленкі, які выконваў праграму разам са сваёй дачкою Алесяй. Раней „Сябры" з поспехам выступілі ў Мельніку, Пасечніках-Вялікіх (гміна Гайнаўка) і на „Спасаўскіх запустах" у Бельску-Падляшскім.

[мерапрыемства ☞ 5]

## Такі баль, як былі...

А мы прыйшлі раз, другі, трэці... Давай з намі займацца Янка Карповіч, ён жа працуе ў Гарадоцкім доме культуры. Набралі мы ахвоты спяваць. Можа, кажа Янка, за сталом заспяваем, можа, у лесе. Зарэгістравалі наш калектыў, назвалі „Асенні ліст". Тры гады дзейнічаем.

[самадзейнасць ☞ 8]

## Каб не скура, то косці рассыпаліся б

І той бедненькі салдат уцёк. А 2-й гадзіне трэба было нам выганяць коней на пашу. Пасем, а недзе каля 4-й бачым ад Васількова нейкае невядомае войска; гэта былі немцы. Саветы акапаліся ў бярэзінцы на полі і ўспыхнуў бой. Загарэлася вёска: згарэла 7 клуняў і 4 хаты. Саветы палажылі 16 немцаў, аднак немцы ўзялі верх і пад вечар бой сціх.

[успамін ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Беларусы б'юцца з рускімі... пакуль на стадыёне

Упершыню з часоў атрымання Беларуссю незалежнасці, 18 жніўня ў Мінску адбыўся футбольны матч паміж зборнымі Беларусі і Расіі. Беларусы праігралі 0:2. Але галоўныя падзеі ў гэты дзень адбыліся не на футбольным полі, а на трыбунах і на мінскіх вуліцах.

За некалькі дзён да гульні сябры Маладога фронту заклікалі заўзятараў футболу падтрымаць сваю каманду бел-чырвона-белымі сцягамі. Такі заклік быў невыпадковы. Супадзенне гэта ці не, але фактам з'яўляецца тое, што беларускія футбалісты дасягнулі найбольшых поспехаў, калі выступалі пад нацыянальнымі колерамі. У 1993 годзе, калі нашы клубы пачалі ўдзельнічаць у кубкавых гульнях УЕФА, яны адразу набралі 75% пунктаў ад магчымага. У 1994 годзе гэты паказчык падняўся да 83,3%. Няблага выступала і зборная краіны. Вяршыняй яе поспеху была гульня з Галандыяй у 1995 годзе. Ужо пасля лукашэнкаўскага рэферэндуму, па змене дзяржаўнай сімволікі, тысячы людзей прыйшлі на стадыён з бел-чырвона-белымі сцягамі. Над полем лунаў дух патрыятызму. Беларусы тады абыгралі майстроў сусветнай велічыні з лікам 1:0.

Гэта была апошняя гульня ў Мінску, калі нацыянальныя сцягі можна было беспакарана прыносіць на стадыён. Міліцыя абшуквала падазроных хлопцаў і забірала „недазволеную" сімволіку. Няраз на трыбунах адбываліся сутычкі заўзятараў, якія абаранялі свае сцягі, з АМАПам.

У гэтым годзе беларускія клубы зусім не маюць у сваім запасе пунктаў, а зборная у адборачных гульнях чэмпіянату Еўропы не атрымала ні адной перамогі.

Матч з расійскай зборнай быў таварыскі, але ў сувязі з беларуска-расійскімі дачыненнямі — прынцыповы. Каля двухсот сяброў Маладога фронту занялі адзін з сектараў стадыёну. Ад пачатку гульні над ім залуналі нацыянальныя сцягі. Міліцыя спрабавала іх забраць, але гэта зрабіць не ўдалося. Кожная атака беларусаў суправаджалася воклічам: „Жыве Беларусь!". Сцягі раз-пораз падымаліся і ў іншых частках стадыёну. Трэба адзначыць, што нашы футбалісты гулялі даволі добра і расіянам проста пашанцавала.

З імі разам прыехалі ў Мінск каля трох соцень скінаў. Яны занялі сектар, які знаходзіўся побач з маладафронтаўскім. На пачатку другой паловы матча расіяне кінуліся біцца з беларусамі. Бойку спыніў АМАП. Міліцыянеры раздзялілі два варожыя сектары. Так працягвалася да канца гульні. Над „беларускім" сектарам лунаў велізарны (6 на 3 метры) нацыянальны сцяг. Калі матч скончыўся АМАП і спецназ акружылі беларусаў і расіян. Нашых пачалі выпускаць па адным, пры гэтым абшукваючы. Хлопцы здолелі перадаць вялікі сцяг дэпутату Валерыю Шчукіну. Ён гераічна абараняў яго ад міліцыі, быў дастаўлены ў пастарунак, але неўзабаве яго адпусцілі і... вярнулі сцяг.

У гэты час расійскія „болельщики" яшчэ знаходзіліся на стадыёне пад аховай міліцыі. На выхадзе сабраўся некалькітысячны натоўп беларускіх заўзятараў футболу. Яны скандавалі: „Чакаем Расію!" У іх, несумненна, быў намер палічыць рэбры названым гасцям. Праз нейкі час натоўп рушыў да чыгуначнага вакзала з мэтай сустрэць расіян там. Па дарозе хлопцы крычалі: „Жыве Беларусь!" і „Бей маскалёў!". (Як паведамілі сябры Маладога Фронту, іх прадстаўнікоў там не было, што можна палічыць даволі адметнай з'явай).

Як кажуць сведкі падзей, толькі дзякуючы намаганням міліцыі на вакзале не адбылося пабоішча і расіяне ад'ехалі з Беларусі больш-менш цэлымі.

**Зміцер Кісель**

## Апазіцыя спадзяецца на перамовы

Пасля летняга зацішша на беларускім палітычным Алімпе зноў закіпаюць жарсці. У верасні павінны пачацца перамовы паміж апазіцыяй і ўладай пры пасрэдніцтве АБСЕ. У дыялогу павінны быць зацікаўлены абодва бакі. Для апазіцыі гэта шанц змяніць палітычную сітуацыю ў краіне і пачаць рэальна ўплываць на яе. Для ўладаў — магчымасць легітымізаваць сябе ў вачах Захаду і прарваць міжнародную ізаляцыю.

Апазіцыйныя партыі пачалі падрыхтоўку да перамоў у пачатку жніўня. Арганізацыі, якія рэальна дзейнічаюць, склалі мемарандум аб перагаворным працэсе. У дакуменце гаворыцца, што партыі лічаць адзіным легітымным органам улады ў Беларусі Вярхоўны Савет. Зыходзячы з гэтага, яны перадаюць яму „паўнамоцтвы на зацвярджэнне саставу дэлегацыі і мандата на вядзенне перамоў". Мемарандум падпісалі прадстаўнікі Беларускага народнага фронту, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Статкевіча), Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады (Шушкевіча), Партыі камуністаў Беларусі, Беларускай партыі працы і Беларускай партыі жанчын „Надзея".

Апазіцыя прыслухоўваецца да думкі кіраўніка кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ Ханса Георга Віка і згодна пайсці на ўступкі. Калі ў вышэйзгаданым мемарандуме сцвярджаецца, што паўнамоцтвы ВС канчаюцца ў 2001 годзе, дык у „Асноўных палажэннях Платформы апазіцыйных палітычных партый Рэспублікі Беларусь на перамовах з выканаўчай уладай пры пасрэдніцтве АБСЕ", якія былі прыняты 12 жніўня, адной з мэтаў перамоў ставіцца правядзенне парламенцкіх выбараў у 2000 годзе. Раней адным з патрабаванняў апазіцыі было вызваленне палітычных вязняў, у „палажэннях" сказана: „Апазіцыя чакае аб'яўленне амністыі (!) палітычна зняволеным". Там жа дапускаецца магчымасць абрання двухпалатнага парламента, што зацверджана ў прэзідэнцкай канстытуцыі 1996 года. Апазіцыя патрабуе, каб з моманту распачацця перамоў палітычныя партыі мелі магчымасць надрукаваць адзін матэрыял у два тыдні ў дзяржаўных газетах і адзін раз у два тыдні на працягу 10 хвілін выказаць свой пункт гледжання на тэлебачанні і радыё. У „Асноўных палажэннях" таксама выказваюцца патрабаванні лібералізацыі Закона аб парламенцкіх выбарах.

Аднак усе намаганні апазіцыйных партый і АБСЕ могуць стаць марнымі. Як вядома, у Беларусі ўлада сканцэнтравана ў адных руках. Ні адзін дзяржаўны чыноўнік не зможа гарантаваць, што дамова, якую ён заключыў, будзе выканана, калі яна не спадабаецца Аляксандру Лукашэнку. А ён заявіў 13 жніўня, што не збіраецца размаўляць з Вярхоўным Саветам, які, на яго думку, нічога сабой не ўяўляе. Лукашэнка сказаў таксама, што не верыць ні адной партыі, ніводнаму руху, акрамя тых, якія канструктыўна крытыкуюць уладу (якія гэта партыі — ён не патлумачыў). Аднак праз некалькі хвілін Рыгоравіч дадаў, што згодны на перамовы з палітычнымі партыямі і рухамі, але: „...это не гончары, шарецкие и позняки, это не вечёрки, сивчики и прочие. Это же огромнейший спектр людей. Это примерно 10% населения, которые сегодня так или иначе находятся в оппозиции. С ними, хотел я бы этого или не хотел, я обязан толковать". Лукашэнка патлумачыў, як ён збіраецца весці дыялог з сябрамі партый абмінаючы іхняе кіраўніцтва. На яго думку, такія размовы павінны весці прадстаўнікі мясцовых улад, пачынаючы ад сельсавета. Праўда група для перамоў з боку ўлад усё ж была створана. Кіраваць ёю будзе памочнік Лукашэнкі Міхаіл Сазонаў. У склад групы ўвайшлі людзі, якія нічога не вырашаюць і займаюць нязначныя пасады.

Апазіцыя адказала тым жа, яе дэлегацыю будуць прадстаўляць партыйныя дзеячы, пасада якіх не вышэй за намеснікаў арганізацый. Спіс дэлегатаў павінен быць зацверджаны Вярхоўным Саветам.

Аднак гэта не адна прычына, па якой перамовы могуць аказацца не толькі безвыніковымі, але і наогул не адбыцца. „Аб'яднаная апазіцыя" не зусім аб'яднаная. Зянон Пазьняк выступіў супраць вядучай ролі Вярхоўнага Савета ў перамовах. Праз некалькі дзён пасля падпісання мемарандуму Мікалай Статкевіч таксама адмовіўся перадаць паўнамоцтвы сваёй партыі парламентарыям.

**Зміцер Кісель**

## Ліст з-за кратаў

Былы прэм'ер-міністр і кандыдат у прэзідэнты Міхаіл Чыгір, які зараз сядзіць у турме, напісаў адкрыты ліст да Аляксандра Лукашэнкі. Па словах аўтара ліста, яму нядаўна прапанавалі звярнуцца да кіраўніка дзяржавы з пакаяннем за дзейнасць падчас веснавой кампаніі па выбарах прэзідэнта і паклясца больш не займацца палітычнай дзейнасцю.

Адкрыты ліст Міхаіла Чыгіра, які быў надрукаваны ў незалежных газетах, на самай справе можна назваць пакаяннем. Але былы прэм'ер-міністр каецца не ў тым, што адкрыта выступіў супраць Лукашэнкі, а ў тым, што калісьці працаваў разам з ім. „Згода працаваць з Вамі была самай страшнай памылкай у маім жыцці. Каюсь! Перад Богам, людзьмі Беларусі, сям'ёй сваёй", — гаворыцца ў лісце. Міхаіл Чыгір піша пра парадкі, якія панавалі ў прэзідэнцкім асяроддзі, пра грошы, якія пайшлі не ў бюджэт краіны, а ўзбагацілі прэзідэнцкую каманду. Аўтар сцвярджае, што Лукашэнка ў сваёй дзейнасці кіруецца не інтарэсамі Беларусі, а сваімі асабістымі амбіцыямі. Чыгір шкадуе, што калісьці верыў, што беззаконне, якое тварылася на яго вачах рабілася без ведама прэзідэнта. „Вы таптапі сімвалы, дарагія свядомым жыхарам Беларусі, мову, на якой размаўлялі мае бацькі, збівалі людзей, якія маюць дэпутацкі імунітэт, а я маўчаў! Я выконваў свае слова, не займацца палітыкай, не рабіць сабе імя. Каюсь! Каюсь і прашу прабачэння ва ўсіх, хто пацярпеў ад гэтага", — пішацца далей у лісце. Аўтар таксама просіць прабачэння ў сваёй сям'і, якой шмат чаго прыйшлося перажыць падчас, калі ён быў прэм'ер-міністрам.

Чыгір нагадвае, як Лукашэнка абвінаваціў Шушкевіча ў неаплаце скрынкі цвікоў, а сам, дабіўшыся ўлады, перайшоў на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне. Пабудаваў за кошт дзяржавы дом маці, адрамантаваў дом жонкі, аддаў велізарныя грошы на рамонт сваёй рэзідэнцыі, набыў самалёт, верталёт і параход. Аўтар ліста ўпэўнены, што эканамічная сітуацыя Беларусі будзе пагаршацца, пакуль Лукашэнка застаецца пры ўладзе. Напрыканцы Міхаіл Чыгір сцвярджае: „Мой маральны абавязак — выправіць памылку, якая была дапушчана пяць гадоў назад".

**(зк)**

## Беларусь губляе сваіх верных сыноў

19 жніўня ў Гарадзеі, што пад Нясвіжам, памёр адданы патрыёт Беларусі Аляксандр Баханчык. Гэта быў чалавек таго пакалення, якое пранесла любоў да Беларусі праз усё жыццё і нічога акрамя пакутаў ад вернасці Радзіме не мела. Вайна, сталінскія лагеры, змяінае шыпенне ў спіну: „Паліцай, здраднік". Усё прыйшлося перажыць гэтым людзям. Але менавіта пра такіх калісьці сказаў Барыс Рагуля, што калі б у 1991 годзе ў Мінску было 100 такіх хлопцаў, Беларусь была б сапраўды незалежнай краінай.

Нарадзіўся Аляксандр Баханчык у 1926 годзе ў Гарадзеі. У 1942 г. ён паступае на вучобу ў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Калі вясной 1944 года ў Мінску арганізоўваецца школа афіцэраў БКА, спадар Баханчык, разам з шэрагам нясвіжскіх семінарыстаў едзе ў сталіцу, каб стаць беларускім вайскоўцам і абараняць інтарэсы Беларусі. З лета таго ж года пачынаюцца блуканні па пакутах маладых беларускіх патрыётаў, курсантаў афіцэрскай школы. Нехта здолеў прабіцца на Захад і ўступіць у армію Андэрса, нехта загінуў у фашысцкіх канцлагерах. Аляксандр Баханчык скончыў вайну ў Чэхіі, прымаў удзел у вызваленні паўстаўшай Прагі ад немцаў, у складзе „власаўскай" дывізіі генерала Бунячэнкі.

Пасля яго чакалі доўгія гады ссылкі, праца ў шахтах Інты. Спадар Баханчык астаўся верным ідэалам сваёй маладосці. Ён не страціў кантактаў са сваімі сябрамі па афіцэрскай школе: Кастусём Акулам, а. Аляксандрам Надсанам, Юрыем Весялкоўскім. Артыкулы Аляксандра Баханчыка не раз з'яўляліся ў канадскім „Зважай", амерыканскім „Беларусе", англійскім „Голасе часу", гродзенскай „Пагоні". Атрымаўшы ад сваіх сяброў кнігі, газеты, ён дасылаў іх у розныя куткі Беларусі, каб як мага больш людзей даведалася праўду пра мінулае, пра беларускую эміграцыю. У апошнія гады жыцця спадар Баханчык прыклаў шмат намаганняў дзеля раскрыцця сапраўднай гісторыі Пражскага паўстання, адметнай ролі ў вызваленні чэшскай сталіцы беларусаў.

Па меры сілаў удзельнічаў Аляксандр Баханчык і ў грамадскім жыцці. Дапамагаў у працы малодшым сябрам з БНФ.

Памёр Аляксандр Баханчык нечакана. За тыдзень да смерці ў яго здарыўся інфаркт. 19 жніўня яго павінны былі выпісаць з бальніцы і тут зноў інфаркт. На гэты раз сэрца не вытрымала.

**(зк)**

# У Сакрата ў Крынках

**Villa Sokrates пачала дзейнасць з размахам. 14 і 15 жніўня ў Крынкі завіталі на бяседу „Беларускія трыялогі" пісьменнікі і перакладчыкі з Польшчы, Беларусі і Нямеччыны. Не менш было асоб, зацікаўленых новай праявай беларускай дзейнасці тут у нас і ў шырэйшым свеце.**



*Я. Жамойцін, В. Петручук, В. Швед, Дз. Шатыловіч, Ч. Сэнюх пад хатай С. Яновіча.*

Хто службова з'ехаў у Крынкі, а хто і асабіста моцна зацікаўлены, асабліва асобай Сакрата Яновіча, якога постаць цікавіць, інтрыгуе, прававкуе. Перш за ўсё гэта чалавек пачыну, непадобны на слязлівых беларусікаў, якія прывыклі наракаць і бедаваць, што заўсёды ім пад горку ды вецер у вочы, куды б яны не ішлі. Рэакцыя слухачоў на Сакратавы гавэнды будзе розная, залежная ад слухачовых матываў ды мэты а таксама і слыху. У саміх Крынках таксама па-рознаму трактуюць Яновіча і яго памкненні ды задумы. Але такія людзі, як войт Крынкаўскай гміны Багуслаў Панасюк заўважаюць шанц, які стварае таксама для гміны такі цэнтр як Villa Sokrates. І спадар Панасюк задбаў пра адкрыццё дзейнасці гэтага цэнтра, паспрыяў у арганізацыі, і прыняў як вельмі чаканых гасцей людзей літаратуры. Яны былі нават ашаломлены такім багатым і шчырым прыёмам.

Бяседа ішла пра літаратуру і шырэйшы яе кантэкст, але і так заканчвалася ўсё палітыкай. Бо ўсё палітыка — літаратура і літаратар не існуюць у вакууме. „Якая мова — такі народ". Дыскутанты ставілі дыягназы, прадказвалі метады ратунку, прагнозы развіцця беларускасці, народа і дзяржавы, але не ад беларускіх літаратараў залежыць тое, што найбольш уплывае на свядомасць народа — сродкі масавай інфармацыі і адукацыйная сістэма.

Цікавая дыскусія датычыла справы, ці ёсць беларуская літаратура „тут" і „тамака", і ў чым яна, мабыць, лепшая. Норберт Рандаў з Берліна быў супраць падзелу на абшар — паводле яго, напрыклад, літаратура Аўстрыі не што іншае, а таксама нямецкая літаратура. Ян Чыквін у сваім дакладзе зноў даказваў, што існуе дзве літаратуры ў Польшчы, польская, і істотная ўжо не толькі ў польскім кантэксце — беларуская. Дыскутанты заўважалі, якое вялікае значэнне ў развіцці нашага тут літаратурнага руху мела свая арганізацыя, у якой згуртаваліся людзі розных пакаленняў, светапоглядаў, лёсу і дасведчання, адукацыі і літаратурных сімпатыяў ды яшчэ раз падкрэслілі ролю Георгія Валкавыцкага.

Вельмі важная роля таго, ці пра Беларусь загаворыцца ў свеце не толькі ў палітычным кантэксце. Каб асацыявалася яна таксама з дасягненнямі ў галіне культуры, літаратуры. З той мэтай



*Салодкая кніга ад сп. Гражыны Піцэвіч.*

Villa Sokrates будзе выдаваць штогоднік „Alba Rutheni", пра які мы ўжо ўспаміналі. У наступных нумарах „Нівы" — больш пра працу над перакладам „Новай зямлі", якую здзяйсняе выдатны перакладчык Чэслаў Сэнюх, удзельнік бяседы, і размова з Уладзімірам Някляевым, таксама госцем „трыялогаў".

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*

# Вялікая мастацкая падзея

У панядзелак, 16 жніўня, у варшаўскім Доме мастака адбылося адкрыццё выставы Лявона Тарасэвіча. Выставу арганізаваў Саюз польскіх мастакоў-жывапісцаў, які мае абавязак выставіць працы актуальнага лаўрэата прэміі імя Яна Цыбіса, а менавіта такую ўзнагароду атрымаў Лявон Тарасэвіч за 1998 год. Пры нагодзе адкрыцця выставы адбылося ўручэнне лаўрэату дыплома і грашовай прэміі — сёлета гэта 8 тысяч злотых. На жаль, паявіліся пэўныя праблемы з арганізацыяй выставы мастака, па прычыне складанага фінансавага становішча Саюза польскіх мастакоў-жывапісцаў, але цяжкасці ўдалося пераадолець, хаця большую частку выставы рыхтаваў практычна сам мастак пры дапамозе сваіх сяброў. На ўрачыстасці ўручэння ўзнагароды прысутнічалі прадстаўнікі Саюза польскіх мастакоў-жывапісцаў, прафесар Тадэўш Дамінік — першы лаўрэат узнагароды імя Яна Цыбіса, намеснік міністра культуры і мастацтва Славамір Ратайскі, быў заўважаны вядомы рэжысёр Анджэй Вайда.

Лявон Тарасэвіч з'яўляецца выпускніком Акадэміі мастацтваў у Варшаве. У выставах удзельнічае з 1984 года. Яго творы экспанаваліся ў Польшчы, Швецыі, Італіі, Вялікабрытаніі, ЗША, Бразіліі, Галандыі, Германіі, Літве, Беларусі, Паўднёвай Карэі, Ізраілі, Турцыі, Японіі. Карціны мастака ахвотна купляюць прыватныя калекцыянеры за мяжой, можна іх убачыць і ў музеях.

Працуе мастак пераважна ў станковым жывапісе. На выставе ў Доме мастака Лявон Тарасэвіч, апрача сваіх старэйшых карцін, паказаў новыя, арыгінальныя віды творчасці — басейн, запоўнены вадой, падкрашанай блакітнай фарбай, а наведвальнікі маглі пахадзіць па падлозе, зробленай з рэльефных рознакаляровых палос на аснове гіпсу.

На ўрачыстасці ўручэння ўзнагароды імя Яна Цыбіса прысутнічала нямала людзей, якія прыйшлі ўбачыць выставу па прычыне сваёй прафесійнай працы ці проста ў выніку асабістага зацікаўлення творчасцю Лявона Тарасэвіча. А вось меркаванні некаторых з іх.

**Славамір Ратайскі — намеснік міністра культуры і мастацтва**: — Для мяне вялікая радасць, што ў мінулым годзе журы прызнала ўзнагароду мастаку Лявону Тарасэвічу, паколькі гэта сведчыць пра тое, што прэмію імя Яна Цыбіса атрымліваюць найлепшыя польскія мастакі. Кожная яго выстава з'яўляецца вялікай мастацкай падзеяй. У гэтым годзе мне ўжо прыходзілася наведваць экспазіцыю Тарасэвіча ў галерэі „Захэнта" і трэба сказаць, што я атрымаў сапраўдную асалоду. Узнагарода імя Яна Цыбіса з'яўляецца вельмі прэстыжнай прэміяй у асяроддзі мастакоў, таму можна з чыстым сумленнем і ад усяго сэрца павіншаваць лаўрэата з такой узнагародай. У яго мастацтве адсутнічае фігура, але агульнае ўражанне ад карцін дае масу пазітыўных эмоцый. Яго мастацтва падабаецца, прымушае задумацца над жыццём, прыродай, існаваннем, вечнасцю — і гэта найважнейшае. На жаль, у сучаснай польскай рэчаіснасці мастацтва часта адсоўваецца на другі план у сувязі з гонкай за грашамі — гэта вялікая памылка. Неабходна, каб усе бакі жыцця чалавека былі гарманічна развітымі — кожны патрабуе, апрача штодзённай ежы, духоўнага пажытку. Мастакі дапамагаюць нам не забываць, што мы не толькі жывыя істоты, а істоты разумныя.

**Славаміра Цяпеля-Кубальска — археолаг**: — Гэта пастаянны пошук нечага новага, чаго яшчэ не было. Зразумела, кожны мастак шукае для сябе натхнення ў розных галінах жыцця — для аднаго гэта чалавек, яго цела, для іншага — як для Лявона Тарасэвіча — гэта прырода. Пакуль што ён знаходзіцца ў пастаянным пошуку, а чым гэта закончыцца — пабачым. Мяне яго творчасць захапляе і прымушае задумацца, я яе стараюся інтэрпрэтаваць, і думаю, у гэтым яе найбольшая вартасць — яна дазваляе кожнаму гледачу ствараць уласную інтэрпрэтацыю.

**Януш Вайнароўскі — мастак**: — На пачатку свайго мастацкага шляху Тарасэвіч сапраўды быў нечым цікавым, новай з'явай у польскім мастацтве. Я назіраю здаўна яго працу і заўважаю, на жаль, змены ў горшы бок. Калі ён маляваў свае псеўдапейзажы, мне падабалася, паколькі гэта было сапраўднае наватарства. Свежыя, жывыя формы, цікавыя ідэі. Але цяпер мяне крыху раздражняе яго перайманне плыняў, якія даўно ўжо назіраліся ў амерыканскім мастацтве — вельмі лёгка знайсці аналогіі з імі ў апошніх працах мастака. Лініі, палосы, колер — усё гэта ўжо было.

**Наталля Грышкевіч**

# Рацыя стану

[1 ☞ працяг]

польская рацыя стану прэзентаваная ва „Вспулчэснай" выглядае зусім інакш. Пра кантэкст беларускай меншасці тут не згадваецца. Паводле традыцыі гэтай палітычнай плыні мясцовы крэсавы люд не называецца ніякім народам. З'яўляецца ён масай кандыдатаў на палякаў. Ёсць затое праблема польскай меншасці ў Беларусі. Узнікаючае радыё — слушна ацэньвае Конрад Крушэўскі — ускладніць адносіны з Лукашэнкам, які можа пачаць дыскрымінаваць тамашніх палякаў. Польская рацыя стану — паводле „Вспулчэснай" — патрабуе свабоды развіцця для польскай меншасці ў Беларусі і рынкаў збыту на ўсходзе для польскіх прадуктаў. Хто і як кіруе суседняй дзяржавай гэта другарадная справа. Эндэцкая традыцыя, дарэчы, заўсёды адкідала існаванне беларускага народа як палітычнага факта. Радыё, якое хоча змагацца з Лукашэнкам — пішацца — магло б быць, напрыклад, у Чэхіі, Нямеччыне ці ЗША. Таму рэдакцыя салідарніцкай газеты асабліва падкрэслівае факт пратэсту Лявона Тарасэвіча і Сакрата Яновіча супраць узнікнення беларускага радыё ў Беластоку, хаця мае зусім іншыя інтэнцыі, чым названыя беларускія дзеячы.

Найважнейшае аднак пытанне: дзе ў гэтым усім беларуская нацыянальная рацыя? Безумоўна, не надта зручнай з'яўляецца сітуацыя, калі нацыянальная меншасць імкнецца ўплываць на лёсы палітыкі ў суседняй дзяржаве. І калі б Лукашэнка быў дыктатарам, які ўзначальвае беларускі рэжым, быў бы гэта недаравальны грэх. Але ад часу, калі стаў ён прэзідэнтам, ліквідуецца там усё беларускае, апаганьваюцца беларускія нацыянальныя сімвалы. У Беларусі праявіліся ўсе прыкметы акупацыйнай улады. Таму натуральнай марай кожнага свядомага беларуса павінна быць тое, каб гэты кашмар і кампраметаванне нацыі як найхутчэй закончыліся. Зразумела, што калі б стаўся цуд і Лукашэнка пачаў выдаваць указы аб вяртанні белчырвона-белага сцяга, беларускай мовы ў школы і нацыянальную адукацыю, трэба было б яго за гэта толькі хваліць. Але нічога такога не здарыцца. Таму радыё „Рацыя" сваімі праграмамі, калі не дапаможа беларусам у вырашэнні асноўнага пытання — „быць ці не быць?" — тады напэўна і не пашкодзіць.

Апошнім часам з'явілася некалькі выказванняў нашых тутэйшых аўтараў тэтаў пра існаванне двух беларускіх народаў, дзвюх беларускіх літаратур — „савецкай" і „беларускай у Польшчы". За кожным разам, калі пра гэта чую, усведамляю сябе, як глыбока марксісцкая адукацыя закаранілася ў мазгах нашых інтэлектуалаў. Па-першае, наш праваслаўны беластоцкі люд думае паводле тых жа крытэрыяў, што люд постсавецкай Беларусі і выбраў бы Лукашэнку большым працэнтам галасоў чым атрымаў ён у Рэспубліцы Беларусь. Па-другое, нашы эліты больш саветызаваны чым, напрыклад, мінскія ці гродзенскія інтэлектуалы — аб чым сведчаць усе, нават апошнія, публічныя выступленні. Сказы пра іншасць (чытай: вышэйшасць) беларускамоўнай літаратуры на Беласточчыне можна толькі адрасаваць да людзей пазбаўленых якога-небудзь кантакту з творчасцю пісьменнікаў і паэтаў у Беларусі. Мы, беларусы Беласточчыны, нічым не лепшыя і ў ніякім плане не вылучаемся ад нашых суродзічаў у Рэспубліцы Беларусь. Жывем толькі ў іншай краіне і маем трошку іншыя праявы вонкавых паводзін. Унутры мы такія ж. Але калі нехта разважае пра народ у катэгорыях сацыялагічных тэорый Ежы Вятра ці „Wybranych zagadnień filozofii marksistowskiej", тады можа і аб'яўляць узнікненне новай нацыянальнасці — „polskich Białorusinów". А чаму не, калі ўжо ёсць „праваслаўныя атэісты" ці „праваслаўныя каталікі"?

**Яўген Мірановіч**

# Такога ж цуда цяжка дзе знайсці

[1 ☞ працяг]

прызначалі, ён быў толькі кандыдатам навук. Такога ў Беларусі не было. Раней рэктарамі станавіліся акадэмікі або ў найгоршым выпадку дактары навук. А ён стаў прафесарам дзякуючы пасадзе.

***— Якія прычыны пасіўнасці беларускага грамадства?***

— Мяне часта пытаюць, чаму ў Беларусі не выходзяць сто тысяч на дэманстрацыю. Адказ просты — самыя актыўныя беларусы: навукоўцы, пісьменнікі, прадпрымальнікі ляжаць у Курапатах, або з'ехалі з Беларусі. Толькі за мінулы год выехала іх 12 тысяч. А проста народ — запалоханы. І калі цяпер дзесьці прыкмецяць, што ты супраць прэзідэнта, цябе звальняюць з працы і ты не можаш больш уладкавацца. У мяне сына цяпер звольнілі з працы — ён працаваў у сістэме Міністэрства сельскай гаспадаркі. І я цяпер думаю, куды яго дзяваць, трэба кудысьці выязджаць з Беларусі. Не маглі нічога знайсці на яго, каб пасадзіць, дык звольнілі з працы. І такіх людзей вельмі шмат. Народ думае: „Ну, а як заўтра будзеш жыць?"

Уся справа ў тым, што Лукашэнку Расія падтрымоўвае не толькі палітычна, але і эканамічна. Менавіта таму ён можа трымацца, адтуль паліцыі 135 тысяч на 10-мільённы народ, таму ён мае магчымасць хаця і невялікую але ўсё ж такі пенсію даваць людзям рэгулярна. Хаця аб якой пенсіі можа ісці справа. Мая маці, каб далёка не хадзіць за прыкладам, якой дзевяноста гадоў і якая працавала ўсё жыццё, атрымоўвае 5,4 млн. рублёў пенсіі. А кілаграм каўбасы каштуе 2,5 млн. Я сам атрымоўваю толькі тры мільёны рублёў, таму што Лукашэнка даў загад не індэксаваць мне пенсію. Больш таго, мяне пазбавілі акадэмічага ганарару (я — акадэмік). Вось за тры мільёны, калі мне рука стала балець, я купіў лекаў, якіх хапіла мне на два тыдні. Як хочаш, так жыві! Беларусь даведзена да таго становішча, што ў магазіне не кожны раз можна купіць малака, галоўным чынам аднапрацэнтнай тлустасці (калі паўтара, то не зусім кепска). Сёння, каб купіць малака, трэба ведаць, калі яго прывязуць. Не заўсёды бывае ў продажы яйкі, не заўсёды бывае масла, сыру зусім, лічы, няма. Ну вось ляжыць тая каўбаса, да якой мала хто і падыходзіць. Яна проста дарагая і купляе яе нейкі прадпрымальнік. Наша сям'я такой каўбасы есці не можа.

Беларусь даведзена да такога гаротнага становішча і каб не падтрымка Расіі, то ўсё развалілася б. 20 ліпеня, у канчатковы дзень прэзідэнцтва Лукашэнкі, у Мінску было столькі войска, колькі падчас рэферэндуму ў 1996 годзе. Былі бронетранспарцёры, аўтаматчыкі, амонаўцы. Усё было перахоплена войскамі. Турмы зараз перапоўнены, людзі пачынаюць знікаць. Быў чалавек і няма чалавека, ну хай сабе той Захаранка; па-рознаму да яго можна адносіцца, але ж гэта чалавек, генерал — ды знік і ўсё. Яго ніхто не шукае. Ці, скажам, тая Віннікава, знікла і няма. Я бы вас прасіў, каб неяк аб гэтым расказваць людзям, таму што я не разумею, калі некаторыя беларусы, дарэчы, якія знаходзяцца ў Сейме, таксама гэтага не разумеюць.

***— Якія мэты Вашай пабыўкі ў Беластоку?***

— Праграма ў мяне невялікая: сустрэча з усімі вамі. Але рыхтуецца такая праграма, калі я прыеду ў Польшчу і сустрэнуся з кіраўніцтвам Сейма і, мабыць, з прэзідэнтам Польшчы. Мы павінны абмеркаваць з імі сённяшняе становішча ў Беларусі, калі скончыўся тэрмін прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі. Я іх праінфармую, а яны, думаю, таксама выкажуць свае адносіны да Беларусі і ў прыватнасці да Лукашэнкі, таму што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь звярнуўся да яго (каб не было праліцця крыві) неадкладна сесці за стол. Я звярнуўся да яго не як да прэзідэнта, але як да грамадзяніна, які павінен сесці за стол і пачаць перамовы. У гэтым напрамку я праводзіў работу не толькі ў Літве. Пазаўчора [11 жніўня — рэд.] прыязджаў пасол АБСЕ ў Беларусі, з якім мы абмяркоўвалі гэтае пытанне. Калі ў бліжэйшыя дзесяць дзён ад Лукашэнкі мы нічога не пачуем (гэта скарэй за ўсё гэтак і будзе), тады мы прыступім да практычных дзеянняў, нейкага ўціску. Звернемся ў першую чаргу да суседніх краін, а таксама да міжнародных арганізацый. Ёсць дамоўленасць аб падтрымцы Злучаных Штатаў Амерыкі. Справа ўся ў тым, каб Лукашэнку не падтрымоўвалі палітыкі Расіі, сама Расія, то Лукашэнка б там і два месяцы не пратрымаў.

***— Які Ваш статус у Літве?***

— У Літву я прыехаў як старшыня Вярхоўнага Савета, які прыступіў да выканання абавязкаў прэзідэнта, таму што ў нас так канстытуцыя патрабуе. Ну і будуць адпаведныя крокі. Такая ёсць дамоўленасць з дэпутатамі Вярхоўнага Савета. Нам трэба неяк перакканаць міжнародныя арганізацыі аб тым, што дыктатара нельга перавыхаваць, зрабіць з яго дэмакрата. Кіраўніцтва АБСЕ лічыць, што яго можна неяк угаманіць, сесці за стол перамоў і дамовіцца аб дэмакратычных выбарах. Наколькі я ведаю гісторыю, такога ў жыцці ніколі не было. Дыктатар ніколі не перавыхаваецца. Адна справа — я так думаю, другая справа — як думае АБСЕ, гэта ж 54 дзяржавы. Больш ці менш прыстойную пазіцыю займаюць прадстаўнікі ЗША, а некаторыя еўрапейскія краіны лічаць, што вось можна неяк уздзейнічаць на Лукашэнку, што ён пагодзіцца на правядзенне дэмакратычных выбараў... парламента. Я пытаю: чаму парламента, а не прэзідэнта? Скончыўся тэрмін паўнамоцтваў не парламента, а прэзідэнта і, калі вы такія майстры, дык давайце арганізуем дэмакратычныя выбары прэзідэнта. Хай балаціруецца Лукашэнка, але каб выбары былі дэмакратычныя. Давайце выбіраць прэзідэнта і дабіраць Вярхоўны Савет замест тых перабежчыкаў, якія перайшлі на працу да Лукашэнкі. Больш таго, у 63 акругах наогул дэпутатаў не было абрана.

***— Ці сустракаючыся сёння са старшынёю БНФ неяк падключаеце яго да сваіх дзеянняў?***

— Я думаю, што Зянон Станіслававіч ніколі не адыходзіў ад гэтых дзеянняў і заўсёды жыў пытаннямі Беларусі. Ні ён мяне не падключае, ні я яго. Мы падключаны самым жыццём як беларусы і як актыўныя палітыкі.

***— Аб чым вы гаварылі з Зянонам Станіслававічам?***

— Спадар Пазьняк з'яўляецца кіраўніком адной з буйнейшых, старэйшых нацыянальных партый, якія былі створаны ў час адраджэння. І таму для мяне вельмі важна ведаць яго погляды на перспектыву развіцця Беларусі. Я думаю, што спадару Пазьняку таксама важна ведаць, як я да гэтага адношуся, якой я бачу Беларусь, паколькі я займаю пакуль што значную пасаду ў заканадаўчым, адзіным ужо сёння легітымным дзяржаўным органе. Мы вось абмяняліся думкамі наконт гэтага. Больш таго, Беларусь стаіць напярэдадні нейкіх значных падзей, якія павінны прывесці, па-першае, да захавання незалежнасці і стварэння гарантый незалежнасці Беларусі як дзяржавы; па-другое, яна стаіць напярэдадні неабходнасці неадкладнага правядзення рэформ, прычым не толькі эканомікі, але ўсяго грамадскага жыцця. Я магу толькі адзначыць, што па галоўных пытаннях у нас са спадаром Пазьняком думкі супадаюць і мы далей будзем узгадняць свае крокі. Я б сказаў яшчэ адно: я не толькі з Зянонам Станіслававічам размаўляю; у мяне такая пасада, што я абавязаны размаўляць з усімі кіраўнікамі партый. Калі гаварыць аб ролі Пазьняка, дык я хацеў бы сказаць, што як у свой час Салжаніцын адкрыў для савецкіх людзей ГУЛаг, так Зянон Станіслававіч адкрыў для беларусаў Курапаты, якія далі магчымасць кожнаму з нас больш глыбока ацаніць злачынствы бальшавізму і сталінскага рэжыму.

***— Вы сустрэліся з віцэ-маршалкам Падляшскага самаўрадавага сейміка Аляксандрам Усакевічам. Аб чым ішла гутарка?***

— Сустрэча была вельмі прыемнай. Мы знаходзім галоўныя ўзаемапаразуменні аб тым, як мы павінны адносіцца да палякаў у Беларусі, а яны — да беларусаў у Польшчы, па якім шляху павінны развівацца ўзаемаадносіны нашых дзяржаў, якое месца мы павінны займаць у нашым агульным еўрапейскім доме. Дамовіліся мы аб тым, што будуць падтрымоўвацца намаганні апазіцыі ў Беларусі па вяртанні нашай дзяржавы на незалежны дэмакратычны шлях развіцця. Але больш за ўсё мы размаўлялі аб сітуацыі беларусаў у Польшчы, каб маглі яны сябе адчуваць беларусамі, будучы прыстойнымі грамадзянамі дзяржавы, на тэрыторыі якой яны жывуць. Віцэ-маршалак пагадзіўся са мной у гэтым. Я са свайго боку таксама запэўніў яго, што калі мы, дэмакраты, прыйдзем да ўлады, то будуць створаны ўсе ўмовы для нармальнага бытавання палякаў у Беларусі. І тут, і там не толькі павінны быць школы ці класы з роднай мовай, але павінны быць і тэатры, і іншыя ўстановы, у якіх павінны працаваць людзі над развіццём культуры, літаратуры сваёй нацыянальнай меншасці. Я выказаў сваё задавальненне тым, што я ўбачыў пры рэфармаванні эканомікі, таму што я ж не толькі сёння ў Польшчы. Быў я ў свой час на эканамічнай канферэнцыі ў Крыніцы. Я ўсё гэта чуў, больш таго, бачыў.

***— Дзякуем за размову.***

# Выхад павінны шукаць самі беларусы

**„Ніва"**: ***— А як Вы, Зянон Станіслававіч, ацэньваеце сітуацыю ў Беларусі?***

**Зянон ПАЗЬНЯК**: — Усё, што сказаў спадар старшыня Шарэцкі, ёсць адпавочная рэальнасць. Я з ім пагаджаюся: і ў ацэнцы сітуацыі, і ў ацэнцы ролі АБСЕ. Я, як палітык неабцяжараны пасадаю, магу больш вольна гаварыць на гэтую тэму. Лічу, што АБСЕ ў асобе спадара Віка, на жаль, не заўсёды ўдаецца застацца аб'ектыўнай. АБСЕ ў нейкай ступені выяўляе пазіцыю немцаў у дачыненні да ўсходняй палітыкі. І гэта дрэнна, што чалавек, які займае пасаду ў міжнароднай арганізацыі, праз нейкія іншыя калідоры лабіруе нямецкую палітыку. І абсалютна відавочна, што пэўныя палітычныя колы, якіх лабіруе Вік, хочуць знайсці паразуменне з рэжымам Лукашэнкі за кошт апазіцыі.

Вельмі асцярожныя падрыхтоўкі гэтак званых перамоваў схіляюцца да таго, каб правесці выбары парламента на ўмоўных прыбліжаных да ўяўленняў Лукашэнкі і гэтакім чынам як бы афіцыйна прызнаць гэты рэжым, прадставіць яго на Захадзе ўжо дэмакратызаваным, з якім паладзілася апазіцыя. Вось такая канфармісцкая пазіцыя АБСЕ ў Мінску, якую я ўжо назіраю другі год. І я не адзін у такой думцы, многія палітыкі выказваюць свае крытычныя адносіны да дзейнасці АБСЕ. Думаю што гэта павінна быць пытаннем асобнага разгляду апазіцыйных партый і Беларускага народнага фронту. Літаральна ўчора [12 жніўня — рэд.] я накіраваў свае меркаванні намеснікам аб умовах удзелу БНФ у перамовах. АБСЕ і Вік мусяць не „кіраваць", а быць пасрэднікамі. Лёс Беларусі і выхад з сітуацыі павінны шукаць самі беларусы і палітыкі, якія прадстаўляюць актыўныя сілы. Калі мы гэта аддадзім на водкуп нейкім знешнім сілам, нават міжнародным, то няма гарантыі, што нехта будзе дзейнічаць у нашых інтарэсах. Я думаю, што сітуацыя будзе папраўлена, але гэта вымагае пэўнай палітычнай работы, спатканняў, высвятленняў. З другога боку, сам Лукашэнка нядаўна ў інтэрв'ю адной нямецкай газеце прызнаўся, што калі б не дапамога Расіі, то ён не меў бы ніякай улады ў Беларусі.

Калі я прыехаў у 1996 годзе на Захад, то перад сабою ставіў адну задачу: каб Захад не прызнаў рэжыму Лукашэнкі, і яго перавароту. Гэтая задача была дасягнута. (Тут я свае „тры капейкі" таксама прыклаў). Пасля 1997 года, калі ўдалося прытрымаць „інтэграцыю", задача, якую я ставіў перад сабою як палітык і як прадстаўнік Фронту — гэта атрымаць ад Захаду гарантыі беларускага суверэнітэту. Гэта ў мажлівасцях Захаду. Калі шэсць-сем гадоў назад Беларусь адмаўлялася ад ядзернай зброі (а я тады быў кіраўніком дэпутацкай апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце), тады ЗША і Вялікабрытанія сведчылі, што яны гарантуюць суверэнітэт Беларусі (гэта не засведчана ў спецыяльных дакументах, але ў працэсе перамоваў такая пазіцыя была выказана). Ніхто на нас не наяздажае танкамі, але наш суверэнітэт у вялікай небяспецы. І гэта вынік перш за ўсё маскоўскай палітыкі. У 1996 годзе маскоўскія палітычныя колы непасрэдна прынялі ўдзел у падтрымцы перавароту Лукашэнкі і цяпер пацвердзілі прызнанне яго як прэзідэнта ў той час, калі паводле Канстытуцыі ён перастаў ім быць. Захад, які фактычна ўтрымлівае Расію, мае вялікія рычагі ўздзеяння на яе палітыку. Я кажу: калі Захад дае крэдыты, без якіх Расія не можа існаваць, то павінна быць пастаўлена ўмова спынення палітыкі „інтэграцыі" і заігрывання з дыктатарам Лукашэнкам. Я лічу, што ўсе беларускія палітычныя сілы павінны аб'ядналь намаганні ў гэтым напрамку. Калі я спатыкаюся з палітыкамі іншых краінаў, то стаўлю пытанне: падтрымайце гарантыі беларускага суверэнітэту, не давайце рускім грошай проста так, пастаўце ім умову: спыніць інтэграцыю з дыктатарам. Беларускі народ сам павінен вырашыць свой дзяржаўны лёс. Беларусь павінна быць незалежнай, дэмакратычнай краінай у Еўропе.

Мы менавіта пра гэта і гаварылі са старшынём Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім, бо ён мае вялікія магчымасці спатыкання з палітыкамі на адпаведных узроўнях. Хачу, каб гэтыя тэзіс быў нашым агульным тэзісам. Зараз важнейшае пытанне для нас — захаванне суверэнітэту, якое звязана з ліквідацыяй дыктатуры. Гэта два ўзаемазвязаныя пытанні.

Міхась Андрасюк

# Фірма

*(заканчэнне; пачатак у 31 н-ры)*

5.

Шчаслівыя здарэнні сунуцца ў свет адзінока і найчасцей абмінаюць твой дом. А калі час ад часу здарыцца нейкі прыязны грукат у дзверы, зрываешся з канапы, бяжыш, адчыняеш і — аказваецца — не табе стукаюць, а суседу! І як ні стараешся, не можаш зразумець: чым гэты непрыкметны чалавек з-за сцяны заслужыў такі гонар. А благія здарэнні заўжды маршыруюць парамі і з блытаніны мільёнаў адрасоў твой якраз вылузваюць беспамылкова.

— Я здаюся, — сказала пані Рубель, перачытаўшы законнае пасведчанне, у якім ясна гаварылася, што яе муж, грамадзянін Анатоль Рубель, апошнюю ноч правёў не ў абдымках распуснай, бліжэй неакрэсленай палюбоўніцы, а пад чуйным вокам улады. Суцяшэнне невялікае, але ўсё-такі суцяшэнне. І можа каўкнулася б горкая пілюлька, калі б не той рахунак.

— Я здаюся. Адыходжу. — Яна пералічыла прамантачаную мужам суму, дадала і той сціплы, але ж зусім легальны, згодна з планам прагуляны рэпрэзентацыйны фонд, і ўсё, што атрымалася, падказвала такі вось выхад. Выхад у дзверы.

Дырэктар ляжаў на канапе. Душа голасам ціхім і нясмелым прапанавала падняцца, падысці да жонкі, абняць, прасіць даравання. Аднак гэты разумны загад душы не быў выслуханы. Целу — асабліва пасля сустрэчы з цвёрдымі паліцэйскімі нарамі — было цяпер вельмі добра. Яно аддыхвалася, усоўвалася ў знаёмую мяккасць падушкі, лашчылася да цёплай коўдры, нашэптвала пяшчотныя словы беламу як снег прасціраду.

Тым часам вопратка пані Рубель няспынным ручайком перамяшчалася з шафы ў падарожныя чамаданы. І кожная сукенка, кожная блузачка, кожны швэдрык, знікаючы ў чорнай пашчы чамадана, пакідалі на дырэктаравай душы балючы шрам. Душа, ашарашаная выгодніцкім становішчам цела, захліпала, заплакала і — заснула.

Калі разбудзілася, нейкія чужыя людзі выносілі з кватэры шафу. Стэлаж, дзе пад бокам рамансаў і дэтэктываў знаходзіў прыстанішча багаты архіў фірмы „EXPO-Anatol", паспеў, відаць, перасяліцца на новае жылішча ўжо раней. У месцы, дзе стаяў ён, асталася белая пляма падлогі. На гэтай пляме, бы раз'еханая варона, раскінуўшы чорныя крылы спачываў дыпламат. Лісты паперы разляцеліся кожны ў свой бок, на складаных вылічэннях, на бізнес-планах бруднымі пячаткамі ганьбы адціснуліся чаравікі грузчыкаў.

Людзі з шафай пайшлі ўжо і дырэктар астаўся сам адзін. Кватэра, пазбаўленая мэблі, здалася цяпер ненатуральна вялікай. З гэтай раптоўна пашыранай прасторы выпаўзала-разрасталася глухая самота. Запаўняла кухню, пакоі, калідор, быццам бы старалася даказаць пану Рубелю, што апроч яго не астаўся ў свеце жывы чалавек.

І вось гэты апошні з жывых зволокся цяпер з канапы, схіліўся над сумнымі астанкамі фірмы і, не спяшаючы, далікатна, быццам бы ўладкоўваў у дамавіну нябожчыка, пачаў складваць свае планы і надзеі ў халодныя абдымкі зганьбаванага дыпламата.

Фірма не выратавалася. Капіталізм мае свае непахісныя законы і кожны, хто спадзяецца на дзяржаўныя ці нейкія іншыя датацыі — спадзяецца дарма.

Першага дня снежня старшыня фірмы „Фрэйс", пан Ігар Бараба, згодна з прывычкай апынуўся ў кавярні „Верас". За апошні месяц ён дакладна перапрацаваў сітуацыю на рынку пісьмовых прыладаў і аказалася, што перспектывы не такія тут шырокія, як раней гэта ўяўлялася. Пераацэнены штаб праваліў справу, ды адно цяпер суцяшэнне, што згаданыя людзі не паявілічаюць ужо маёнтак пана Ігара, а падмацоўваюць рады беспрацоўных. Няма сентыментаў там дзе ўладарыць эканоміка. Так думаў пан Бараба, і такімі навінамі хацеў падзяліцца з панам дырэктарам. Дый шукаць новы абшар дзеяння.

Вечар апусціўся на стрэхі мястэчка і перамешваючы цяжкі, сыры як на адлігу морак з удушлівым смуродам спаленага вугалю, сыходзіў ніжэй. Жоўтальпатымі зіркачамі клікалі апошніх прахожых цёплыя кватэры. Старшыня чакаў дарма. Як гэта магчыма, што ён, бывалы ў свеце бізнесу чалавек, а ў прыватнасці і сябра Толіку Рубелю, не ведаў пра тое, што ўсяму мястэчку было добра вядомае?

Бо хаця і не кожнаму з нас давялося спаткацца з фірмай „EXPO", аднак чуткі пра сямейную катастрофу спадарства Рубеляў запаўзлі туды, куды трэба, як і туды, дзе такое патрэбы не было. Распаўзацца весткам дапамагала і сама пані Рубель. „Во як жывецца", — узяўшыся пад бокі яна дэманстравала сваё новае становішча. І праўда. Апекаваўся ж гэтай паняй не хто іншы, як яе працадавец, а цяпер нават можна сказаць супольнік — Сцяпан Малафіга. Так і кажуць. Забяспечваюць у цукеркі ўсе адпустовыя кірмашы, дораць саладосць іншым, ды і сабе хапае. Хай так будзе. Аднак, пра што сёння пані Рубель і не здагадваецца, лёс пакажа ёй не адну, і не малую, фігу.

Толікава цётка, якая ад вайны жыве сабе ў багатай Нямеччыне, цётка, у якое няма ні дзяцей, ні іншых турбот — у недалёкай будучыні пераселіцца ў яшчэ лепшы свет. Як адзіны спадчыннік, Анатоль Рубель паедзе ў далёкі Гамбург і — навучаны вопытам — на паваротным шляху абміне ўсе зладзейскія пасткі. Ягоная няўступчывасць і настойлівасць, падбадзёраная нямецкімі маркамі, будзе надалей будаваць наш радзімы капіталізм. А калі праваліцца салодкі бізнес, калі пані Рубель сумна апусціўшы галаву застукае ў знаёмую кватэру, асоба, якая адчыніць ёй дзверы, акажацца зусім незнаёмая.

— Чаго? — паправіўшы скупы халацік спытае маладая дзяўчына. Пані Рубель гэту дзяўчыну не распазнае, але мы стрэлі яе ўжо раней, у кавярні „Верас" і адразу здагадаемся, што стаіць перад намі пані Аня. Пакуль раз і назаўжды закрыюцца дзверы, пані Рубель паспее яшчэ прыкмеціць, як яе былы муж ляжыць на канапе і бестурботна чытае газету.

*(снежань, 1998)*

# Знішчэнне мовы

*(працяг; пачатак у 31 н-ры)*

**5. Звужэнне сацыяльнай прыналежнасці мовы**

Адзін з любімых міфаў беларусажэраў — міф пра ўяўную недаразвітасць беларускай мовы і яе непрыдатнасць для зносінаў у „вышэйшых сферах" — навуцы, мастацтве, тэхніцы, палітыцы, вайсковай справе. Такое сцвярджэнне з'яўляецца адным са стэрэатыпаў пабытовай свядомасці тых, хто адмаўляе беларускай мове права на існаванне.

Галоўны ўдар гэтыя сілы наносілі па асвечаных пластах беларускага этнасу. Так у XVII-XVIII ст.ст. з беларускай мовы на польскую перайшлі прадстаўнікі магнацтва і шляхты. З другой паловы XIX ст. гэтыя пласты і частка месцічаў перайшла на рускую мову.

Усё гэта не перашкодзіла беларускай мове развівацца, а часам і ўплываць на суседнія польскую і рускую мовы. Не выпадкова абрусеўшы літаратар з апалячанай беларускай шляхты (дарэчы, з албанскімі каранямі) Тадэвуш Булгарын-Шкандэрбек у 1837 г. пісаў у сваім пецярбургскім часопісе „Северная пчела": „Дойдзе да таго, што ў нас пачнуць пісаць беларускай гаворкай, як пры цары Аляксеі Міхайлавічы і каля гэтай эпохі".

Намаганні не выпусціць беларускую мову з-пад сялянскай страхі, каб на ёй ні навучалі, ні друкавалі, мела далёкасяжную мэту — раздзяліць беларускі народ, пазбавіць яго прыроднае сувязі паміж рознымі грамадскімі пластамі.

Тыя, хто кажуць пра ўяўную неканкурэнтаздольнасць беларускай мовы, ужываюць самыя нецывілізаваныя метады. Гэта яны не прымаюць падпіску на беларускія газеты і часопісы. Гэта яны не дапускаюць беларускамоўныя выданні ў гандлёвую сетку і масавыя бібліятэкі. Гэта яны памяншаюць наклады выданняў на беларускай мове, колькасць найменняў гэтых выданняў. Гэта яны выцясняюць беларускую мову з радыёвяшчання і тэлебачання.

1 снежня 1994 г. прэзідэнт Рэспублікі Беларусь на сесіі гомельскага гарсавета патлумачыў ягоным дэпутатам, чаму ён не гаворыць па-беларуску: „Людзі, каторыя гавораць на беларускай мове, не могуць рабіць нічога, як толькі гаварыць на беларускай мове. Таму што на беларускай мове нельга сказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова. У свеце існуюць толькі дзве вялікія мовы — гэта руская і ангельская".

У свой час брытанскі гісторык Т. Маколей пісаў: „Багатая і магутная (нямецкая — В. Г.) мова Лютэра, якая была выгнанай са школ латынню педантаў і французскай — з палацаў, знайшла сабе прытулак сярод народа. Аб моцы гэтае мовы (кароль — В. Г.) Фрыдрых (II Прускі — В. Г.) не меў ані найменшага ўяўлення. І сама нямецкая мова, і тыя, хто гаварыў ёю, выклікалі ў яго пагарду невука".

Тым, хто называюць беларускую мову няпоўнавартаснаю ў параўнанні з рускаю (а менавіта такое казаў адзін з заснавальнікаў так званага „Русско-белорусского братства", створанага ў Пецярбургу ўвосені 1998 г. з мэтаю прапаганды паглынання Беларусі Расіяю), варта было б пачытаць А. С. Пушкіна, які ў свой час пісаў: „Але вучонасць, палітыка і метафізічная мова ў нас зусім не існуе... Нашы ляніўцы больш ахвотна выражаюцца моваю чужою, якой механічныя формы даўно гатовыя і ўсім вядомыя".

Руская мова з кволай папялушкі пераўтварылася ў прыгажуню. Чаму ж гэткай не стаць беларускай мове? Няўжо толькі таму, што гэтага не хочацца беларусажэрам?

Што ж да канкурэнтаздольнасці моваў, варта ўспомніць, што казаў каля стагоддзя таму выдатны дзеяч ўрэйскага нацыянальнага адраджэння У. (З.) Жабацінскі: „Але навошта ігнараваць гісторыю і запэўніваць, нібы ўсё абышлося без кулака і нібыта поспехі рускае мовы на перыферыі даводзяць унутранае бяссілле іншародчаскіх культур? Нічога гэтыя поспехі не даказваюць, апроч старой ісціны, што падкаваным абцасам можна растаптаць найбольш жыццяздольную кветку".

*(працяг будзе)*

**Валянцін Грыцкевіч**

# Беларускі фэст у Семяноўцы

У царкоўнае прыхадское свята Панцеляймона ў Семяноўцы 9 жніўня ГП БГКТ і гміннымі ўладамі ў Нараўцы планавалася правядзенне беларускага народнага фэсту.

Выязджалі мы з Беластока ў Семяноўку ў струменях лíўня і непакоіліся ці дрэннае надвор'е не перашкодзіць правядзенню фэсту пад адкрытым небам. Ужо на месцы даведаліся, што град у Нараўцы паразбіваў памідоры на градках і знішчыў гародніну. Грозныя навальнічныя хмары павіслі над школьным будынкам, да якога прытулілася невялічкая сцэнка. На шчасце хмары адплылі і выбзірнула сонейка, якое асушыла лаўкі для публікі. Запоўніліся яны жыхарамі Семяноўкі і іх гасцьмі. Хто прыйшоў крышку пазней, таму давялося стаяць у час канцэрта.

Фэст адкрыў войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. Прывітаў ён віцэконсула Рэспублікі Беларусь Паўла Латушку з жонкаю ды паслоў Сейма Яна Сычэўскага, адначасова старшыню ГП БГКТ, і Сяргея Плеву.

Ян Сычэўскі пажадаў публіцы прыемна правесці час на канцэрце і перадаў голас сакратару ГП БГКТ Валянціне Ласкевіч, якая традыцыйна ўжо павяла канцэрт. Паклікала яна на сцэну жаночы хор з Нараўкі пад мастацкім кіраўніцтвам Пятра Скепкі, інструктара Гайнаўскага дома культуры. Хор выканаў некалькі беларускіх народных песень. Пасля на сцэне паявіўся эстрадны калектыў „Ас" з Беластока. Папулярныя яго песні „Як аженіцца", „Ехаў Янка", „Кацярына", „Мама" перапляталіся вясёлымі анекдотамі.

Аграмадны авацыяй прывіталі прысутныя надзвычай папулярны ўжо не толькі ў Беларусі прафесійны мастацкі эстрадны калектыў „Сябры" з Мінска пад мастацкім кіраўніцтвам дасканалага спевака Анатоля Ярмоленкі, які выконваў праграму разам са сваёй дачкою Алесяй. Раней „Сябры" з поспехам выступілі ў Мельніку, Пасечніках-Вялікіх (гміна Гайнаўка) і на „Спасаўскіх запустах" у Бельску-Падляшскім. У Семяноўцы „Сябры" праспявалі, між іншым, такія песні як „Пійце піва, мужыкі", „Цячэ вада ў ярок", „Каліна, каліна", „А я лягу, прылягу", „Полька- трасуха". Сваё выступленне „Сябры" завяршылі папулярнай ужо на Беласточчыне песняй „Мой беластоцкі край", да якой музыку напісаў член калектыву Мікалай Сапура на словы Алеся Барскага.

Пасля „Сяброў" выступіў мала яшчэ вядомы эстрадны калектыў „Сэлект" з Бельска-Падляшскага, які пазней зайграў на танцавальнай вечарыне.

На заканчэнне выступілі вядомыя на Беласточчыне „Прымакі" — Юрка і Марэк. Юрка прыгожа спяваў і да слёз рассмешваў публіку анекдотамі.

Валянціна Ласкевіч сардэчна падзякавала ўсім прысутным за ўдзел у канцэрце і спонсарам мерапрыемства.

На фэсце прадаваліся касеты з песнямі беларускіх мастацкіх калектываў з Беласточчыны, а свае кніжкі падпісвалі „белавежцы" — Янка Целушэцкі і Віктар Швед.

**В. Ш.**

# Зорка
### СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Трэба шанаваць іншых

Шаснаццацігадовы Янка Тамасік якраз перайшоў у другі клас тэхнікума, што ў Новай Вёсцы (60 кіламетраў ад Варшавы). На журналісцкія заняткі ў Старыну трапіў, кажа, выпадкова.

— У занятках маладых журналістаў удзельнічаю першы раз. Паездку гэтую аформіў мне фактычна настаўнік, — а па кароткай хвіліне сцвярджае з усмешкай: — З гэтым прыездам звязана даволі смешная гісторыя. Толькі на чыгуначным вакзале я даведаўся, што Марцін Грудзень (галоўны рэдактар „Z Pogranicza") — мая блізкая сям'я.

**Не далі ёй спаць**

Янка ўжо раней займаўся журналістыкай.

— У мінулым навучальным годзе я быў галоўным рэдактарам школьнай газеты „Sekator". І зноў смешная сітуацыя — першы нумар я мусіў падрыхтаваць за кару. Польскай мовы вучыць нас сонная *фацэтка*. Мой клас, аднак, не дазволіў ёй спаць. Настаўніца помсціць цяпер. Загадала была нам напісаць шырокую справаздачу з Першай павятовай выстаўкі агародніцтва. Спачатку гэтая ідэя мне не спадабалася.

Аднак, бунтаўнікі чарговы раз перайшлі саміх сябе. Газету пра агародніцтва перарабілі на маладзёжную. Прыдумалі ўласную назву, графічнае афармленне, ну і, зразумела... напісалі тэксты. Відаць не былі яны найгоршыя, бо падабаліся нават настаўніцы польскай мовы. Нехта нават сцвердзіў, што „Sekator" — найлепшая газета ў гісторыі школы!

**Татальны люз**

На варштатах „Polis" Янку найбольш падабаўся *люз* і адсутнасць прымусу. Аднак, каб заслужыць на такую трактоўку, словам — на пашану і давер, трэба шанаваць іншых. Трэба нешта даць ад сябе.

Янка не ўсім задаволены ў Старыне.



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

— Адзін цёмны бок заняткаў — камары! Як яны нервуюць! Апошняе — ОК!

**Люблю спакой і цішыню**

На пытанне пра наваколле, Янка адказвае:

— У Старыне вельмі прыгожыя флора і фауна, чысты краявід. Падабаецца мне тут. Можа таму, што люблю спакой і цішыню?

Янка задумоўваецца.

**Жанэта РОЛЯ**

## Добры дзень, „Зорка"!

На пачатку хачу прасіць даравання за тое, што ў маіх лістах шмат небеларускіх слоў, а гэта таму, што я ў школе вучуся рускай мове і некаторыя словы могуць мне памыліцца.

Ад апошняга ліста я напісала яшчэ крыху вершаў, я іх табе высылаю. Калі я прачытала свае вершы на тваіх старонках, уцешылася, ды мае сябры не паверылі, што гэта **я** іх напісала! Яны гаварылі, што напісала іх мая сястра, або і хто іншы! Мне з гэтай прычыны вельмі прыкра і непрыемна. Ды гэта няважна! Лічыцца тое, што я ўрэшце знайшла сваю цягу! Хацелася б, каб усе мае вершы спадабаліся чытачам.

**Анэта ГАЛІМСКАЯ**

**Ад рэдакцыі:** Анэта Галімская прымала ўдзел у ІІІ Агульнапольскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы. Яе вершы высока ацаніла камісія, прызнаючы Анэце ІІ месца. Аўтарку верша „Люблю" палічылі адной з самых цікавых дэбютантак года.

**Анэта ГАЛІМСКАЯ**

### Люблю...

Люблю марыць аб любові,
Люблю сніць аб мары,
Люблю прачынацца рана,
Люблю засынаць вечарам,
Люблю хадзіць у школу,
Люблю сяброўак і сяброў,
Люблю сваё жыццё,
Хаця не знае ніхто,
Калі скончыцца яно...

### Жыццё

Жыццё маё,
Жыццё тваё.
Жыццёвы шлях
У кожнага з нас.
Жыццё доўгае,
здаецца,
а яно — кароткае.
Каханне —
адна радасць у жыцці.
Каханне старэйшых
і каханне маладых.
Чалавек марыць
Кахаць.
Марыць аб жыцці
і жыць
для мары, кахання, любові.

## Польска-беларуская крыжаванка № 34

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 📖 | Mnich | ▼ | Radar | ▼ | Towary / Dar | Rekin | Konik | Balkon | ▼ | 📖 |
| Porządek ▶ | | | ▼ | | ▼ | ▼ | ▼ | Gruz, śmieci | | 📖 |
| Okolica / Kurz | | ▶ | | | | | | ▼ | | |
| Prezent ▶ | ▼ | | | | | | | | | 📖 |
| ▶ | | | | | Cytryna ▶ | | | | | |
| Mieszkaniec | | Rybak ▶ | | | | | | 📖 | | 📖 |

**Адказ на крыжаванку н-р 30**: Палац, сям'я, парабак, рак, сыр, румын, матор, сіла, страха. Пасад, карыта, раб, цар, куст, мір, Ярыла, манах, як.

## Кацярына

***(беларуская народная казка)***

Жыў-быў дзед. У яго была дачка Кацярына. Адзін раз пайшоў дзед у лес і знайшоў там залатую ступу, прынёс дамоў і кажа дачцэ:

— Дачушка! Я гэту ступу аднясу пану.

— Не нясі, татулька, пану, бо пан, узяўшы яе, захоча і таўкачы.

Усё ж дзед не паслухаў дачкі, панёс ступу пану. Прынёс дзед ступу, пан выйшаў на двор, пагледзеў і сказаў дзеду, каб да ступы прынёс таўкачы. Дзед заплакаў і пайшоў. Прыйшоў дамоў і кажа дачцэ:

— Праўду ты казала, што пан захоча і таўкачоў.

— Ідзі, тата, і скажы пану: „Трох дурняў — адзін, што згубіў ступу, другі — што знайшоў, а трэці — ты пан, што ўзяў ступу і хочаш яшчэ таўкачоў!"

Дзед так і зрабіў. А пан гаворыць:

— Дзед, твая дачка Кацярыны разумная. На табе жменьку льну, занясі яго сваёй дачцэ, няхай яна мне гэты лён спрадзе, сатчэ і зробіць мне к вечару кашулю.

Дзед заплакаў і пайшоў дамоў. Дома сказаў дачцэ, што загадаў пан. Тады дачка дала дзеду палачку і сказала:

— На табе, татулька, гэту палачку, аднясі яе пану і скажы яму, каб ён мне перш зрабіў прыпасы для таго, каб можна было ткаць.

А пан узяў дзесятак яец, зварыў іх і сказаў дзеду:

# Ой, бяда мая, бяда

*Муз. Генадзя ШЭМЕТА*
*Сл. Людмілы СІМАНЁНАК (Віцебск)*




Шэрая зязюлька
Мне гады лічыла.
Пяць год накувала,
А адзін забыла.
Прыпеў: Ой, бяда мая, бяда,
Як такое можа быць?
Пабыла б зязюлька ў школе,
Навучылася б лічыць!

Шэсць гадоў — не мала!
Я ўжо вялікі.
Раз, два, тры, чатыры, пяць —
Цяжкія разлікі!
Прыпеў: Ой, бяда мая...
Шэрая зязюлька
У лесе кувала.
Пяць год налічыла,
Але ж гэта — мала!
Прыпеў: Ой, бяда мая...

# Музычная рэвалюцыя ў Н.

Заўсёды, калі бацькі пасылалі мяне на канікулы ў вёску, я пратэставала. Плакала. Пагражала самагубствам. Справа ў тым, што я не люблю вёскі. І асабліва сваіх сваякоў-аднагодкаў. Яны прачыналіся ў пяць гадзін раніцы! Зразу ўключалі сваю любімую музыку disco-polo і пад яе рытм праводзілі ўвесь дзень. І так да позняга вечара! Чалавек можа з глузду з'ехаць ад такога маразму! Дайшло да таго, што замест нармальнай, чалавечай размовы, мая дваюрадная сястра мовіла: *Jakie piękne jest lato, jaki piękny świat! Ja kocham chłopaka, co muzykę disco-polo gra!* А тым часам за акном ужо трэці дзень ліў дождж, пахла на падворку гнілой травой...


*Будзе ў вёсцы забава.* Фота Міры ЛУКШЫ

А гэтага хлапца кахала ўся вёска Н.! Бо ён тут мае бабулю і час ад часу прыязджае зводзіць з розуму мясцовых прыгажунь. Паспяхова, дарэчы. Праўда, кажуць, пра густ не спрачаюцца. Але я не магла маўчаць. Заўсёды бунтавалася, чуючы гэтыя рытмы, свойскія, а заадно і варварскія.

Найперш я пачала спяваць усё на манер народнай песні, шырокавядомай у Н. „Там у полі два дубочкі". Мая дваюрадная сястра спачатку смяялася з мяне. Пазней і яна зразумела, што манатонія забівае. У яе галаве ўзніклі сумненні. Урэшце аднойчы яна пачала на мяне крычаць. Яна называла мае *цудоўныя* песні „сечкай" і ламатнёй. А я толькі таго і чакала! Пазней мы спрачаліся тры гадзіны, сварыліся, абураліся. Але тое што думалі — сказалі адна адной. І адначасова выказалі думкі пра музыку.

Пасля з кожным днём у нашай хаце было прыгажэй і спакайней. Раніцай іграла толькі радыё. Пасля абеду мы слухалі беларускія рок-гурты „Мроя" і „Брага". Вечар належаў бабулі, якая слухала рэлігійныя напевы. Пры нагодзе даведаліся мы, як мучыла гэтая ранейшая музыка нашу бабку!

А хлопец-зорка disco-polo перастаў падабацца нашай дваюраднай сястры.

Толькі я апынулася сярод ахвяр музычнай рэвалюцыі. Кожную песню беларускага рок-гурту спяваю на манер „Там у полі два дубочкі"...

**Мартына ДУБІЦКАЯ**


*Хлопец з гітарай прыцягвае ўвагу.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Жыцень

Жыцень — бог восені. Беларусы ўяўляюць Жыценя крыху грозным, нібыта вечна незадаволеным. Жыцень нізкага росту, худы, даволі сталага веку з трыма вачыма (трэцяе на патыліцы), з ускудлачанымі валасамі. Ходзіць вельмі хутка, сагнуўшыся. Расхаджвае ён па палях, каб агледзець, ці ўсё добра падабрана, як павінна быць у добрай гаспадарцы. Калі Жыцень знойдзе на жніўніку шмат каласоў, пакінутых жнеямі, збірае іх, і, звязаўшы ў адзін сноп, пераносіць на іншы жніўнік, дзе сабрана ўсё чыста, з ашчаднасцю. Вынікам гэтага здараецца неўраджай у наступным годзе на тым месцы, дзе Жыцень знайшоў шмат пакінутых каласоў і, наадварот, вялікі ўраджай на той ніве, дзе пакінуў ён сноп.

Тое ж бывае і з агародамі, якія наведвае Жыцень і ў якіх знаходзіць нядбайнасць, гаспадарскія непарадкі. Жыцень з'яўляецца беражлівым і старанным гаспадарам, каб папярэдзіць іх пра надыход небяспек і такім чынам даць ім магчымасць падрыхтаваць запас хлеба на галодны год.

Жыцень, паводле беларускага падання, прысутнічае ў полі пры восеньскай сяўбе. У час пасеваў ён з грозным выглядам расхаджвае па пасеяным жыце і нібыта ўсё прыглядаецца да чагосьці ўнізе, утоптвае ўсялякае зерне, каб лепш увайшло ў зямлю і хутчэй апладнілася зямелька сокамі.

*(Жывая кніга прыроды)*

— Каб твая дачка пасадзіла курыцу на гэтыя яйкі і каб праз два тыдні былі кураняты!

Тады дачка ўзяла гарнец ячменю, зварыла яго і сказала бацьку, каб ён яго аднёс пану, каб пан яго пасеяў, зжаў, змалаціў і надраў круп, каб было чым карміць куранят.

Дзед пайшоў і аддаў ячмень пану. Пан тады сказаў:

— Разумная твая дачка Кацярына, але ты ёй скажы, каб яна ка мне ні прыйшла, ні прыехала, ні сытая, ні галодная, ні голая, ні адзетая.

Дзед пайшоў і сказаў гэта Кацярыне. Яна наварыла рэдзенькага кісялю, нахлябалася яго, укруцілася ў сетку, узяла труса, села на казла і паехала да пана. Толькі пан з акенца ўбачыў Кацярыну, загадаў напусціць на яе сабак. Як толькі сабакі кінуліся на яе, яна зараз шпурнула ім труса, а сама пад'ехала пад ганак да пана. Пан выйшаў да яе.

— Вось я ні прыйшла, ні прыехала, ні сытая, ні галодная, ні голая, ні адзетая. Я вось кісялю паела, сетку надзела і на казле прыехала.

— Ну, будзем, Кацярына, жаніцца, — сказаў пан.

— Будзем.

— Толькі ты, Кацярына, мой суд не перасуджвай.

— А пан на мяне „трызніш" не скажа.

Вось яны пажаніліся і жывуць. Толькі раз, у жніво, у аднаго мужыка ажарабілася кабыла, а жарабя падкацілася пад чужы воз. Тады мужыкі пачалі спрачацца. Адзін гаворыць: „Мая кабыла ажарабілася!", другі: „Мае калёсы!". А пан і рашыў: „Калёсы ж ажарабіліся!"

Тады Кацярына сказала, каб калёсы і кабылу пусціць з гары: за кім пабяжыць жарабя, таго і будзе. Пан кажа:

— Кацярына! Ты мой суд перасудзіла!

— Ноччу ў майго бацькі, — сказала Кацярына, — куры, узлезшы на дах, дзяўблі зоркі, а шчупакі, вылезшы з вады, збіралі гарох.

— Што ты трызніш?!

— Во, пан на мяне сказаў „трызніш"!

— Будзем, Кацярына, разжэньвацца.

— Будзем, паночак.

— Але ты, Кацярына, — сказаў пан, — бяры ў мяне, што табе міла, што табе люба.

Кацярына на развітальнай вячэры напаіла гарэлкай пана, паклала яго ў лодку і паплыла з ім па рацэ. Толькі пан прачнуўся, сказаў:

— Вернемся, Кацярына, у двор.

Пасля гэтага пан і Кацярына сталі жыць і пажываць добра.

Ларыса ГЕНІЮШ

## Павучок

Павучок — ткач-ткачок
Сеў на тоненькі сучок.
Павуцінне свае спраў
І на голлейку снаваў.
Нітку да ніткі —
Камарам на світкі.

А чыя ж то ніва, чые ж то пакосы...

# Такі баль, як былі...



Гарадоцкі „Асенні ліст" на летнім ветры прыляцеў у Меляшкі. Аўтобусам з надпісам „Wycieczka". З Янкам Карповічам і Юркам Астапчуком, які цяпер дырыжыруе хорам гарадоцкіх пенсіянераў. А вёска Меляшкі, славута тым, што балі ў ёй былі калісьці такія, што успамінае ўся аколіца. Няважна, ці це дваццаць, сорак ці больш — як растанцуешся, то пантофлі шусь пад лаўку — і басяком!.. Цяпер тут большасць — равеснікі сяброў пенсіённага хору з суседняга Гарадка. Гасцявалі іх летась, запрасілі зноўку. І вось чакала іх уся вёска, прыкрашаная як разынкамі моладдзю, што прыехала да бабаў і дзядоў на лета, успамінала, гледзячы з-пад рукі на сонца, ці не едуць спевакі з „Прымаком". Усе акуратна апранутыя, падрыхтаваныя — бо то ж дамовіліся сапраўдны прыём зрабіць, каб гасцей пачаставаць ды і самім пагуляць у сваёй прыгожай, светлай святліцы.

У святліцы аж гудзе. А хор выбіраецца яшчэ на падворак, на рэпетыцыю. Там, у яркай пляме заходзячага сонейка заспее іх мой фотаапарат. Якія цёткі, якія дзядзькі! Пасля Вера Лукошык, паглядаючы на сваіх калег і на публіку асабліва на малечаў), якая з цікавасцю зіркае на інструменты, уздыхае:

— Я ўсё гармонію трымаю. Маю пяць унукаў, але ніводзін з іх не цікавіцца. А ўсе мае дзяды былі музыкантамі... Як пачалі мы спяваць тут разам? Заснавалі Клуб сеніёра. Узялася за гэта настаўніца-пенсіянерка. Ідэі былі розныя — мы спявалі, расказвалі, вязалі. Але раз наша сяброўка не прыйшла. А мы прыйшлі раз, другі, трэці... Давай з намі займацца Янка Карповіч, ён жа працуе ў Гарадоцкім доме культуры. Набралі мы ахвоты спяваць. Можа, кажа Янка, за сталом заспяваем, можа, у лесе. Зарэгістравалі наш калектыў, назвалі „Асенні ліст". Тры гады дзейнічаем. Далі нам цяпер інструктара, Юрку Астапчука. То ж ён проста жывы артыст, гэты Юрка! Ён нас падрывае! Збіраемся ў 15 асоб, але як прыходзіцца спяваць, то адна хворая, у дзвюх жалоба. Шасцёх мужчын, трох музыкантаў. Аліганцка адзетыя — пакупілялі ім касцюмы, нам блузкі, спадніцы. Мы пакуль яшчэ не „выбіліся". Бо ў нас у Гарадку ёсць і другі *зэспул* — „Расспяваны Гарадок", стары, заслужаны, у іх свой творчы ўзрост ёсць. Мы яшчэ не такія папулярныя. Вось нядаўна выступалі на Паэтычных сенакосах, а таксама пасля „Басовішча" ў Барыку. Спяваем песні беларускія і польскія, Янка і Юрка нам іх прапануюць. Рускую таксама заспявалі, „Мороз, не морозь меня"...

Янка Карповіч, які і бацьку свайго з Меляшкоў прыцягнуў у калектыў, вядомы розным пакаленням Гарадоцкае зямлі і не толькі — з'ездзіў яе і на калісьніх забавах, на вяселлях, іграючы.

— Базуем на беларускіх песнях з нашага рэгіёна, — кажа. — Польскія бярэм таксама з прычыны, што на агляд песенных калектываў сеніёраў трэба такія таксама мець. У верасні будзе такі агляд у Саколцы. Мы запрапануем дзве беларускія і дзве польскія песні. Першы раз прымаем удзел у такім аглядзе. Думаю, тое, што з карэння, найлепей выходзіць. Ведаеш, усё нашае замірае. Вёскі на занепад ідуць, моладзь выехала. У Меляшкі прыехалі мы з прыемнасцю. Гэта ж вёска, у якую я ў 1959 годзе, як малы хлопчык, прыехаў з Беларусі. Маглі б мы даць намнога даўжэйшую праграму, але думаем, што тут будзем яшчэ не раз. У нас у хоры спявае хто хоча, не вялі мы селекцыі. Хто адчувае па сабе, што дасць рады спяваць...

Імпрэзу распачаў Юрка Астапчук:

— Буду гаварыць на сваёй роднай мове, думаю, што яна тут зразумелая, бо калі хто нават і не згэтуль, то яе ў змозе паняць. Вядома, што наш калектыў называецца „Асенні ліст" не з гэтай нагоды, што асеннія лісты гэта восень і праміnанне, а што восень — гэта самая прыгожая пара года!

Якія бурныя воплескі азываюцца з залы! „Брава! Брава!" — найбольш актыўна спадарыня Валянціна. *Гарэла сосна, палала... Ой, чыя ж то ніва, чые ж то пакосы... Колькі ў небе зор...* — спявае ўся зала. *Як паехаў мой Іван у лес па дровы...* Азываецца ціхенькая жанчынка ля дзвярэй: Ой, і я калісь выступала, мы тут усе такія артысты былі! *Як забава, то забава аж да раня!* Ды тут Юрку трэба кудысьці ехаць — у яго тэрміновыя справы, але ж яшчэ вернецца! Крыху пажартаваўшы з публікай, знікае на нейкі час, а на сцэне бярэ голас сужонства Ларыса і Міхал Абрамовічы. Дзякуе ўсім за выступленне солтыс Віктар Латыш, які, з букетам у руках, у вельмі паэтычных словах гаворыць пра лісты, моцныя, якія трымаюцца за галінкі дрэў і не думаюць ападаць заўчасна. Але гэта яшчэ ж не канец забавы!

„Я з музыкай і паміраць буду!" — смяецца пані Валянціна і падхопліває ўсё маладзейшых кавалераў пад бокі. Бо ўся зала вірує ў танцы. Застолле багатае, — усё ж з-за стала выскокваюць немаладыя пары, а з вуліцы, як і калісьці, пазірае натоўп малых і старых. Урэшце і Марыська з мужам узвіваюцца ў сучасным танцы пасярод святліцы. „Ого, і я так танцавала я ў ее гады!" — з пэўнай зайздрасцю кідае пані Валя. А са сцэны, уперамешку з анекдотамі, ліецца музыка, узмоцненая тэхнікай. Выходзяць і салісты — Ніна і Уладзімір Захарчукі, Генік Мартонік, Абрамовічы. І непераўзыйдзеныя жарты Юркі і Барыса Карповіча! І палітычныя, і такія, што прыходзіцца азірацца на дзверы, за якімі таўпіцца іншая публіка...

— Прыехалі беларусікі мае, — уздыхае бабулька, якой ужо трэба ісці спаць. Узрушылася. Стамілася. Хоць не трэба будзе ёй раніцай зрывацца, упраўляцца. Няма для каго. — Хоць раз у год такая забава!

Міра Лукша

*Фота аўтара*

# Гарачае лета ў Асяродку ўзораў



*Дзеці ў час мастацкіх заняткаў.*

У Асяродку ўзораў для дзяцей-інвалідаў у Гайнаўцы закончыўся VII Мастацкі дзіцячы пленэр і адразу распачаўся XXIV мэблевы пленэр.

Больш за сорак асоб, дзяцей і моладзі з Гайнаўкі на працягу месяца сустракаліся ў асяродку ўзораў са студэнтамі Акадэміі выяўленчага мастацтва з Познані, каб развіваць свае мастацкія здольнасці. У час спатканняў маладыя людзі малявалі, рэзьбілі, выконвалі вітражы, выдзіранкі. У працах карысталіся воскам, глінай, дошкамі.

Як штогод, у планах было тэатральнае выступленне перад бацькамі і гайнаўскай публікай, таму многа часу ўдзельнікі адвялі на падрыхтоўку сцэнічнага афармлення спектакля і самой тэатральнай пастаноўкі. У гэтым годзе выступілі з апрацоўкай казкі „У даліне цікавасці". Завяршэннем пленэру была выстаўка амаль 300 прац, у тым ліку 40 скульптур з гліны.

— Хочам, каб гайнаўскія дзеці, нікуды не выязджаючы, мелі на месцы цікавыя канікулы і адпачываючы маглі развіваць свае мастацкія здольнасці. Вельмі цешыць нас, што з кожным годам лік удзельнікаў нашых спатканняў павялічваецца, а вядуцца яны сапраўды прафесійна. Студэнты з Акадэміі выяўленчага мастацтва заняткі павялі вельмі цікава, — кажа кіраўнік Асяродка ўзораў Яніна Язерская. — Дзеці многа вольнага часу праводзілі на свежым паветры. Для гульняў падрыхтавана была спецыяльная плошча з прыладамі. У час гэтых сустрэч хочам, каб дзеці на калясках прыемна праводзілі час і спаборнічалі з усімі іншымі. Ідэя наша была такая, каб стварыць тут дзіцячую мастацкую майстэрню, дзе маладыя людзі маглі б спакойна папрацаваць і добра адпачыць.

10 жніўня г.г. у Асяродку распачаўся XXIV Агульнапольскі мэблевы пленэр, над якім патранат трымае Міністэрства культуры і мастацтва. У Гайнаўцы адбываецца ён ад 1985 года. Усе ранейшыя пленэры наладжаны былі дзеля калекіх дзяцей і дзякуючы ім створаны быў у Гайнаўцы Асяродак узораў. Ужо другі год удзельнікі з усёй краіны будуць праектаваць, а пасля выконваць узоры прадметаў штодзённага карыстання для невідучых асоб.

— Людзі хочуць, каб вакол іх было прыгожа, каб былі сучасныя прыгожыя прадметы. Такія ж патрабаванні калекіх асоб. Мы, як адзіны ў Польшчы асяродак, выконваем узоры рэабілітацыйных прыладаў штодзённага карыстання, — расказвае кіраўнік Яніна Язерская. — Калі мы наладзілі супрацоўніцтва са школай для невідучых у Лясках каля Варшавы, тады выявілася, што вельмі мала ў нас мэблі і прадметаў, якія дапамагаюць у жыцці асобам, якія не бачаць. У мінулым годзе мы праектавалі такія прадметы. Наладзілі пасля супрацоўніцтва з Асяродкам для невідучых дзяцей у Вроцлаве, у якім каля 300 жыхароў. Яны далі нам прапанову праектаваць абсталяванне святліцы, хочучь, каб выканаць ім спецыяльныя сталы для працы ў школе і дома, дапаможнікі для дзяцей дашкольнага ўзросту і рэабілітацыйныя цацкі для гульняў. Восем удзельнікаў, якія прыехалі ў Гайнаўку, ведалі ўжо якімі тэмамі зацікаўлены Асяродак і адразу ўзяліся за падрыхтоўку праектаў, а пасля з дапамогай мадэльшчыка Аляксандра Мацкі і гайнаўскіх дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў будуць паўставаць канкрэтныя прылады і мэбля.

— Калі запатрабаванне на некаторыя ўзоры вялікае, тады заказваем іх у столяраў. Найчасцей выконваем мадэлі для канкрэтнага дзіцяці, улічваючы яго хваробу. Для жыхароў Гайнаўкі прылады выконваем бясплатна, — паясняе кіраўнік асяродка і пералічвае гарады ў Польшчы, адкуль прыходзяць заказы на прылады.

Працу праектантаў закончыць выстаўка, якую можна будзе наведваць у верасні.

Аляксей Мароз

*Фота Яніны Язерскай*

# На Святой Гары



Свята Праабражэння Гасподняга для большасці вернікаў праваслаўя ў Польшчы асацыюецца са Святой Гарой у Грабарцы. Падчас вячэрні напярэдадні свята збіраецца на ёй некалькі дзесяткаў тысяч людзей. Звычайна прыязджаюць аўтобусамі, аўтамабілямі, цягнікамі, а пару тысяч заўсёды прыходзіць пешшу. У гэтым годзе паломнікі ў арганізаваных групах ішлі з Саколкі, Бельска, Гайнаўкі, Яблачына, Драгічына. У кожнай амаль групе былі вернікі з Беларусі. Прыбыло таксама вайсковае паломніцтва. Уваход на Святую Гару ўзначальваў святар-палкоўнік Міхал Дудзіч. Салдатаў вітаў епіскап-генерал Міран. Іх прысутнасць заўважыў таксама ў прывітальным слове мітрапаліт Сава, які падзякаваў салдатам за патрыятызм і верную службу Рэчы Паспалітай.

На Святой Гары побач старых з'явіліся новыя крыжы. Людзі пакінулі іх з надзеяй, што вернуцца дадому ачышчанымі ад сваёй хваробы ці клопату, якія ляжалі ім на душы. Раней паломнікі часта акружалі Спасаўскую царкву тры разы на каленях. Сёлета рабілі гэта толькі адзінкі. Прастора паміж храмам і лесам крыжоў была надта густа запоўненая вернікамі, таму пакутніцкі маршрут быў надта складаным.

На Святой Гары асабліва ўрачыста служыцца вячэрня, якая як бы пачынае малітоўную ноч. Прысутнічаюць у ёй усе епіскапы, пару соцень святароў і 10-15 тысяч вернікаў. Хор семінарыстаў і студэнтаў Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі стварыў у гэтым годзе непаўторнае спеўнае афармленне багаслужбы. Атмасфера Спасаўскай вячэрні заўсёды ўражвае вернікаў. Літургічная цырымонія адбываецца каля галоўнага ўвахода ў царкву. Крыжы і пахіленыя, як бы ў паклоне ў бок храма старыя сосны, паказваюць людзям існуючую тут іерархію.

Вакол Святой Гары вырастае каменны мур, які ў будучыні аддзеліць ад сябе два светы — святасці і ўсяго, што з'яўляецца яе адмаўленнем. Не ўсе, што едуць на Грабарку, шукаюць там месца для малітвы. Навокал Гары на час Праабражэнскага святкавання вырастае вялікі базар. Гандлююць там усім. Нават мясцовыя сяляне падзялілі свае палі жэрдкамі і зрабілі на іх платныя стаянкі для аўтамабіляў. Цэны на іх вышэйшыя нават чым у Варшаве, але свабодная канкурэнцыя дае магчымасць выбару месца. Адна са стаянак знаходзілася ў роўнай адлегласці ад Святой Гары і г.зв. „вясёлага мястэчка". Уначы менавіта ў гэтым месцы найлепей адчувалася існаванне побач сябе двух светаў. З Гары плылі старыя царкоўныя гімны, а з „мястэчка" — водгаласы, як бы чорт дачку замуж аддаваў.

Плошча побач Дома пілігрыма — гэта месца, дзе можна сустрэць людзей, якіх не бачылася некалькі гадоў. Там таксама прадаецца царкоўная літаратура, іконы, крыжыкі. Вядомы беластоцкі графік Уладзіслаў Петрук прапанаваў свае працы, прысвечаныя Святой Гары. Літаратура, якая экспанавалася ў гэтым годзе, была выключна рускамоўнай, імпартаванай з Расіі. Былі гэта перадрукі ранейшых прац, але таксама шмат новых тэалагічных разважанняў. З аднаго боку сведчыць гэта аб адраджэнні праваслаўнай думкі ў Расіі, з другога, аднак, што ўсходнееўрапейскае праваслаўе астаецца надалей у цяні расійскай культуры. Выглядае на тое, што ўсе адраджэнскія нацыянальныя рухі будуць развівацца — так як гэта ўжо адбываецца ў Беларусі — побач праваслаўя. **(ям)**

*Фота Багуслава Скока*

# Гайнаўская пілігрымка

Ужо дзявяты год праз Кузаву пралягаў маршрут Гайнаўскай пілігрымкі на Святую Гару Грабарку. Другі раз паломнікі спыніліся на начлег у гэтай вёсцы.

Сёлета амаль чатырыста чалавек завіталі ў нядзелю 15 жніўня ў Кузаву. Тут пілігрымаў чакаў абед.

Увечары адбылася багаслужба, якую ўзначальвалі гайнаўскія святары, што суправаджалі паломніцтва.

Размеркаваннем паломнікаў на начлег занялiся кузаўскія жанчыны з царкоўнага хору. Размяшчалі яны па сем (а нават і больш) чалавек у адным доме. Многія пілігрымы начавалі ў Рэпчыцах і Чаромсе-Станцыі — іх мясцовыя жыхары забіралі на сваіх аўтамабілях.

У панядзелак, 16 жніўня, пасля снедання таксама адбылася багаслужба. У 10.30 паломнікі пакінулі Кузаву і накіраваліся ў Мядзвежыкі.

IX Гайнаўская пілігрымка сёлета праходзіла праз Грабавец, Сакі, Елянку, Кузаву, Мядзвежыкі і Вэрпаль. 18 жніўня паломнікі былі ўжо на Святой Гары Грабарцы. **(ус)**

**З маіх падарожжаў**

# Дзве Францыі

**(2. У 1996 годзе)**

Каму давялося прачытаць у трыццатым нумары „Нівы" першую частку маіх нататак „Дзве Францыі" (з 1978 года), той памятае, што менавіта тады я пачала адчуваць да французаў вялікую пашану. І той этап можна было б назваць маёй „першай Францыяй". Французы ўяўляліся мне (пасля зладзейскай Італіі) людзьмі надзвычай высакароднымі, добрасумленнымі.

У 1996 годзе (праз васемнаццаць гадоў) маё ўяўленне пра французаў крыху змянілася. Можна было б нават сказаць, што перажыла я ў пэўнай ступені шок. Справа была дробная, і ў параўнанні з тым, што ў людзей крадуць, мо нявартая была б таго, каб пра яе пісаць, але нешта ў маім нутры бушавала.

На гэты раз мне пашанцавала адпачываць у Іспаніі, на Коста-Брава (Дзікім узбярэжжы) непадалёку ад Барселоны. Іспанцы (а фактычна **каталонцы**) былі ў адносінах да нас вельмі ветлівыя. Калі чулі польскую мову нашай „орбісаўскай" групы, то адразу пачыналі гаварыць з намі па-руску. Ізноў пацвярджалася ісціна, што для людзей Захаду Усход — ёсць Усход. Адзіны ў іх паняцці. Калі б ім нехта сказаў, што вось адны славяне не хочуць знаць другіх — бадай не паверылі б.

Каталонцы здаліся нам вельмі шляхетным і чэсным народам. У крамах мы не клапаціліся пра разлічэнне манетамі (нам даводзілася доўга вывучаць незнаёмыя металёвыя кружкі), дык мы іх высыпалі проста на руку, а то і на прылавак, а прадаўшчыца ўжо брала колькі трэба, і заўсёды ўсё было карэктна. Зрэшты, мясцовыя жыхары стараліся дапамагаць сваім гасцям.

З нейкім унутраным спакоем уязджала я з Іспаніі ў Францыю. Можа прычынай гэтага былі шчырыя каталонцы, а можа на мой настрой уплывалі успаміны з першага побыту ў Францыі, калі французы ў Ніццы прадсталі перада мною, быццам вестуны высакароднага.

Прабыўшы два дні ў Авіньёне, цікавым гістарычным горадзе, мы накіраваліся ў Страсбург, раз нямецкі, раз — французскі горад, дзе месціцца сёння сядзіба Еўрапейскага парламента.

Мы ехалі па аўтастрадзе, мінаючы то вінаградныя плантацыі, то вялізныя аўтамабільныя фірмы. Часамі відаць былі прыдарожныя карчмы і карчомкі, гатэлі, паркінгі. На адным з паркінгаў з фешэнебельным барам з чырвонай цэглы мы зрабілі прыпынак.

Унучка пачала енчыць, што хоча ў бар, галодная! Трэба было ісці: нельга ж марыць голадам дзіця. Бачу, што ніхто з нашага аўтобуса ў бар не кіруецца, але мы ўсё ж пайшлі.

У бары — чарга. Я нават не зразумела, хто гэтыя людзі, але большасць гэта былі, здаецца, французы. Яны хутка заказвалі каля касы нейкія стравы, плацілі і ім тут жа падавала афіцыянтка ўзятыя з кухні пахучыя сасіскі, фрыткі і іншыя зробленыя „на хутка" стравы, такія, як і ў нашых барах хуткага абслугоўвання.

Не вельмі арыентуючыся ў тутэйшых звычаях, я разгубілася. Калі даваць тыя грошы, у каго заказваць стравы — у касіра ці ў афіцыянткі?.. А найгоршае тое, што ўсе гаварылі па-французску, а мы з унучкай — ні бу-бу.

Урэшце падышла наша чарга, і мы па-англійску заказалі ў афіцыянткі тыя няшчасныя сасіскі з фрыткамі. Нам, здавалася, што яна нас зразумела. Прасунуліся крыху далей, і я выняла кашалёк з сумачкі, каб заплаціць касіру. Маючы ў памяці цудоўныя ўспаміны пра французаў з 1978 года, узмоцненыя яшчэ нядаўняй пабыўкай у Барселоне, я, як і ў Іспаніі, высыпала з кашалька на прылавак усё тое, што засталося ў мяне на Страсбург, свята верачы, што і тут, як у Іспаніі, касір возьме адно столькі, колькі трэба на адну порцыю сасісак з фрыткамі.

Касір са здзіўленнем глянуў на грошы, адразу спрабаваў узяць, відаць, колькі трэба. Пасля, бадай, стукнуўся ў лоб. Кажа нешта накшталт: „Момант!" і пачынае выбіраць сабе іншыя грошы. Выбіраў-выбіраў, кінуў іх у касу, а калі я глянула, што ён мне пакінуў, высветлілася, што амаль нічога не засталося.

Мяне ўзяла злосць, бо я ведала, колькі там было грошай. Думаю, што нават можна яшчэ было схадзіць утраіх у рэстаран, а не толькі з'есці порцыю сасісак. Кажу касіру: „О не!", але ўжо мяне адапхнулі ад касы, а афіцыянтка падала заказаную страву наступнаму ў чарзе. Нас як бы там і не было, і мы як бы нічога не плацілі.

Я вырашыла не здацца без бою. Але што зрабіць, калі касір не ўспрымае маёй слабой нямецкай мовы, значна аслабленай хваляваннем. Нешта балбачу яму па-нямецку, што ён узяў значна больш грошай, чым трэба было ўзяць, а ён утаропіў свае валовыя вочы ўдаль, быццам бы я была пустым месцам. Не разумеў ані па-нямецку, ані па-англійску, калі пачала яму тлумачыць унучка.

Хачу ўвайсці ў скуру маіго чытача і, магчыма, людзей, што стаялі ў чарзе ў тым французскім бары пры аўтастрадзе. Можа, тое, пра што я пішу, усіх толькі смешыць. Божа, столькі ёсць большых і брыдчэйшых спраў! А гэта ж ерунда. Але калі ўзяць пад увагу мае спадзяванні на сустрэчу са шчырымі, сардэчнымі французамі і тое, што мяне на гэты раз сустрэла, дык можа варта было б мне паспачуваць. Дальбог, было гэта, як абухом па галаве.

Не атрымаўшы ані заказанай стравы, ані рэшты, адапхнутыя і ад прылаўка, і ад касы, мы стаялі збоку, як сіроты, што апынуліся сярод дзікуноў у джунглях, а не ў цывілізаванай Францыі. Нехта падказаў нам, што наверсе, у бюро, ёсць жанчына, якая ведае нямецкую мову, і мы пайшлі яе шукаць. Знайшлі, але жанчына, выслухаўшы мае жалі, сказала, што ў бар не пойдзе і не будзе ўмешвацца ў іхнія справы. Што было рабіць? Мы з унучкай ізноў сышлі ўніз.

І ўжо я не ведала, ці зноў без сэнсу спрачацца з касірам, ці прасіць прынамсі, каб далі тыя сасіскі, а ў нашым аўтобусе пачалі нервавацца, што нас так доўга няма. Муж сказаў, што мы ў бары. Прыйшоў наш пілот. Калі я расказала яму, як нас тут „афармілі", ён пачырванеў. Відаць, яму стала сорамна за нас, а не за зладзея. Але папрасіў шэфа, тлумачыў яму, што мы мелі адлічаныя грошы на экскурсію па Страсбургу. Той развёў толькі рукамі, але гаварыў па-англійску. Я зразумела, што раіў нам прыйсці вечарам, калі будуць здымаць касу.

Мы мусілі ўжо бегчы да аўтобуса. Кажу пілоту, што мо яны нам хаця дадуць тыя сасіскі, за якія я так солана заплаціла... Далі. Але адзін гэты выпадак быў лыжкай дзёгцю ў бочцы мёду, якой мне ўяўлялася раней Францыя. Бадай, усюды ёсць людзі і людзі. У 1978 годзе ў гатэлі ў Ніццы мне звярнулі ўсё, што я схавала пад падушку, а тут, у прыдарожным бары, лёгка ашукалі, бо вядома было, што зараз і так ад'язджаем. Зрэшты, і ў Іспаніі, аказваецца, бывае па-рознаму. Знаёмы прафесар паехаў на кангрэс у Мадрыд. Толькі прысеў на скверыку, паставіў свой чамаданчык побач і глянуў на фантан, як чамаданчыка ўжо не было. А там былі і грошы, і дакументы, а галоўнае — навуковыя матэрыялы. Для яго Іспанія — агідная краіна.

**Ада Чачуга**

# Каб не скура, то косці рассыпаліся б

**Успаміны Сцяпана ПУЦА з Барысаўкі Гайнаўскай гміны.**

У 1939 годзе мне было 14 гадоў. У верасні прыйшлі да нас саветы. Ехалі на конях, а старэйшая моладзь вітала іх:

— Здравствуйте, товарищ Сталин, вождь нашей армии!

Саветы салютавалі, а нашы хлопцы крычалі: Ура!

Нас, маладых, паслалі ў школу вучыцца рускай і беларускай мовам. Вучыліся каля 60 чалавек, настаўнік называўся Бруква. Старэйшыя мужчыны вымушаны былі працаваць, нормы выконваць. Спярша трэба было каменне ў Гайнаўку вазіць; мой бацька меў 2 вазы і 2 коней, то ўсе камяні з поля вызбіралі, я таксама памагаў бацьку збіраць і вазіць. Пасля выганялі на вывазку лесу: пад Каралюкамі бярозу рэзалі, аднак майго бацьку не выганялі, бо старэйшы быў.

Восенню 1940 года малацілі мы з братам збожжа. Прыехаў да нас *настаўнік* з раённага НКУС і да бацькі:

— Почему зерна нормы не отдаёшь?

— *Товарищ*, — кажа бацька, — дай мне на другі год пасеяць, то я здам.

— Даю 24 часа термина, а после разделаемся с тобою.

І бацька цэлую ноч *шопелькаю* веяў і на другі дзень здаў. Была пара сеяць, то мы зноў намалацілі. А бедныя гаварылі:

— Рускія прыйдуць — нам хлеб дадуць.

Саветы зрабілі спіскі тых гаспадароў, у якіх было больш 10 гектараў, на вываз у ссылку. Апынуўся на ім мой бацька і Барко з Ласінкі. Аднак летам 1941 года ўспыхнула вайна. Я пас кароў, бачу: салдаты адступаюць на ўсход, многа іх, як цёмная хмара; ішлі з 10-й гадзіны раніцы.

Прыязджае салдат на кані ў нашу вёску, у суседкі малака просіць. А другі пабачыў і на яго:

— Ах ты, сукін сын, і т.д.

І той бедненькі салдат уцёк. А 2-й гадзіне трэба было нам выганяць коней на пашу. Пасем, а недзе каля 4-й бачым ад Васількова нейкае невядомае войска; гэта былі немцы. Саветы акапаліся ў бярэзінцы на полі і ўспыхнуў бой. Загарэлася вёска: згарэла 7 клуняў і 4 хаты. Саветы палажылі 16 немцаў, аднак немцы ўзялі верх і пад вечар бой сціх. Прыгналі мы коней, а ў вёсцы поўна немцаў, якія раніцаю пайшлі далей.

Нямецкая разведка напаткала ў Лядскім нашых людзей, якія былі мабілізаваны на будову аэрадрома ў Картуз-Бярозе і цяпер вярталіся дадому. Немцы пакалолі іх безабаронных: у адным месцы 4 чалавекі, у другім — 2 і ў трэцім — чатыры. Праз два дні хавалі іх: не пастраляны яны былі, толькі пакалаты; я сам бачыў дзіры ў грудзях і парэзаныя пальцы — відаць бараніліся перад смерцю.

Прайшоў год і немцы сталі набіраць моладзь на работу ў Германію. Солтыс вызначыў, каб адзін з нас, братоў. Восем разоў загадвалі ехаць, а мы не едзем. Аж на дзевяты раз прыслалі бацьку пісьмо, што калі цяпер ніхто з нас не з'явіцца, то вывезуць усю сям'ю. А бацька не можа назначыць ніводнага з нас: бацьку ж кожны палец баліць... І я сам падумаў: брату 19, а мне 17, то я паеду, а брат бацьку памагаць будзе.

І забралі мяне спярша ў Бельск, а пасля павезлі поездам у Кёнігсберг і далей пад Пілаў — у маёнтак. Там працавала 35 рабочых; гаспадар карміў нас бульбаю з лупінамі. Нам страх і я з сябрамі рашылі ўцякаць. Прайшлі аж пад Алецка і там нас злавілі; было нас разам каля трохсот чалавек. Загналі нас у жандармерыю і самаходамі адставілі ў Кёнігсберг назад і тры тыдні трымалі ў астрозе. Пяць сутак начавалі на калідоры, а пасля ў адзіночную камеру загналі шэсць чалавек: траіх нашых і траіх з Гродна. Правялі мы там 18 сутак. Давалі нам па 10 дэкаграмаў сухога хлеба з прызначэннем: 4 на снеданне, 2 на абед і 4 на вячэру. То пад канец не маглі мы ўстаяць на нагах не трымаючыся сцяны.

З астрога забралі нас у *арбайтсамт*, адкуль забраў мяне ў Кёнігсберг агароднік. Там харчы былі добрыя: што сам еў, тое і нам даваў. Восенню перавялі нас у баракі за вёскаю. Прабыў я там 8 месяцаў і зноў уцёк. Удалося прыйсці дахаты. Не *мельдуюся*. Дома быў месяц часу, з братам вывозку вазіў. Паедзем у лес, прыйдуць партызаны і нашу торбачку з ежай забяруць... Хацеў і я пайсці ў партызаны, але яны абы-каго не бралі...

У Грамніцы 43-га года адбываўся ў Нарве сход і там солтыс далажыў пра мяне. У вёсцы мела быць вяселле, я ўжо амаль апрануўся, толькі яшчэ босы быў, калі немцы акружылі наш дом і арыштавалі мяне. У мяне быў братаў *Ausweiss*, а брат у суседа быў і дахаты не прыйшоў. Немцы загадваюць: Шукай Стэфана; а Стэфан — гэта ж я. З'явіўся солтыс і, прывітаўшыся *Heil Hitler!*, паказаў, што *Штэфан* — гэта я. Тады мяне сталі біць прыкладамі. Загналі ў Нарву і там яшчэ 25 удараў атрымаў.

На другі дзень завезлі мяне ў Бельск, у *штрафлягер*, там торф капалі. Вахманы *бельсковыя* былі, то мой бацька цераз аднаго мне кусок хлеба перадаў, а той кажа:

— З'еш, а што не з'ясі — аддай калегам.

Бо быў такі Стасек з Браньська — ён сабе на другі раз хлеб пакінуў. Нас дзве гадзіны ганялі „рунду" з бізунамі і сабакамі. І ён той хлеб згубіў, і вахманы пабачылі. І пачалі яго біць і дапытваць, адкуль хлеб мае. Ён назваў адну дзяўчыну з кухні, то і яе білі, нявінную. А яму праз 7 дзён па 150 бізуноў білі, а есці не давалі. І ён таго не пражыў.

Пасля двух тыдняў нас завезлі ў Гданьск, а адтуль паромам і калейкаю ў Штутгаф; быў 5 сакавік 1943 года. Тут то нам усё — падумалася мне: з работы ідуць і трупы нясуць...

Прызначылі нас у сталярню, а адтуль лес карчаваць і горы плянтаваць. І пні, і клёцы, што ў нас коньмі вывозяць, на плечах мы выносілі. Мяне ратавала тое, што нізкі ростам. А калі здаровы мужчына, то тры тыдні вытрымае і ўсё; ва ўмывальні трупы ляжалі, з нумарамі выпісанымі хімічным алоўкам на грудзях...

Вартаўнікі стаялі кожныя 25 метраў. Калі мы выходзілі за лагер, лічылі, колькі выходзіла чалавек, а калі вярталіся — лічылі, колькі вярнулася разам з трупамі. Аднойчы не хапала двaіх. Пакуль не знайшліся, мусілі мы стаяць на двары без ежы. У лагеры трымалі 45 сабак і тыя сабакі іх знайшлі. Аднаго разарвалі, а другога вахманы не дазволілі. І сабака вадзіў яго за правую руку ад блока да блока; цела яго абрывалася ад укусаў. Адзін ноччу ўцёк: 3 кіламетры каналізацыйным каналам пхаўся. І прапхаўся, але пасля двух тыдняў яго злавілі. Павесілі яму на шыю дошку з надпісам: „Ура, ура! Я опять назад вернулся". А пасля яго ўжо ніхто не бачыў...

Давалі адну буханку хлеба на шасцярых. Кроім яго спярша ўздоўж, а пасля яшчэ на тры часці. Кожны хоча *уголок*... Адзін з нас адварочваецца ад таго хлеба, а другі датыкае кусочак і той адвернены называе каму яго даць... На абед давалі бручку: рэдкую, жоўтую. Лыжак не было. І міскі ніхто не мыў, бо вылізвалі. А хлеб сніўся; будзішся і пытаеш, чаму не наеўся...

14 чэрвеня 1944 года пасадзілі нас на транспарт, далі па кілаграме хлеба на дарогу, то мы яго адразу і з'елі. Праз Польшчу, Чэхію і Аўстрыю завезлі нас 23 чэрвеня ў Маўтхаўзен. (У Штутгафе я меў нумар 20570, а ў Маўтхаўзене — 75985.) Там пад горамі была фабрыка самалётаў. Адзін тыдзень працавалі днём, а другі тыдзень — ноччу. Работы не было як не было святла; штодзень былі налёты. Выпускалі мы па сем самалётаў на змену: разам чатырнаццаць у суткі.

5 мая 1945 года не пусцілі нас на работу. Чуваць выстралы, ніхто нічога не ведае. А эсэсаўцаў ужо два тыдні раней знялі, а на іх месца паставілі былі старэчаў. Адкрываецца брама, а ў ёй — амерыканцы. І мы ўсе: Ура! І шапкі ўгору!

Хто мог, на эсэсаўскую кухню кінуўся і там жменямі елі; многія і паўміралі ад пераядання, дачакаўшыся канцы вайны! Мне ўдалося пяць сырых бульбін ухапіць, а якія яны былі смачныя, што сёння і булка не такая; важыў я 35 кілаграмаў: каб не скура, то косці рассыпаліся б... Паўтара месяца там мы прабылі. Працаваць ніхто не прымушаў, то ўдзень вошай білі. Была кухня Міжнароднага чырвонага крыжа: там раз у суткі абед давалі. Раз іду з абеду і бачу: рускія запісваюць „ехать на родину". А я не маю з кім парадзіцца... Гавару з адным палякам, а ён кажа:

— Słyszałem, że wszystkich do Moskwy powiozą...

А мяне хто ведае? Я і астаўся. А тых, што да саветаў запісаліся, пасля двух месяцаў астрыглі і на японскі фронт!

А тыя, што ў лагеры асталіся, сталі хуліганіць: ружжо мелі, то аўстрыйцаў пад сценку сталі ставіць, дабытак разбіраць, напівацца. Поўнае бяспраўе, бо ні немцаў, ні амерыканцаў. І пачалі такіх лавіць і звозіць за драты! Усіх: жанчын і мужчын разам! Але есці давалі даволі. Трымалі нас там так два тыдні, а пасля амерыканцы нас па 50 у самаход і ў Чэхію. А чэхі нам дазвалялі спярша ўсё браць, а пасля тое ўсё нам забіралі і ў вагоны ды на польскую граніцу. А Польшча вітала нас лозунгам: „Bracia Polacy! Wracajcie do kraju, brak rąk do pracy". Патрымалі нас чатыры суткі, далі 100 злотаў і білет на два тыдні шукаць сям'ю. І падаліся мы абы-куды, абы поезд ехаў.

Я ў Кельцах апынуўся, у Скаржыску... Пытаю капітана, дзе граніца, бо чуў, што Беласток у *Расіі*... А ён адказвае, што Беласток у Польшчы, а граніца яшчэ 45 кіламетраў за Беластокам.

Еду ў Варшаву, Варшава разбітая. Прадам, думаю, шкарпэткі, каб купіць што есці; цэнаў не ведаў. Прадаў за 30 злотаў, а булка хлеба каштуе 35! Але прадаўшчыца ўпусціла...

На станцыі чую: кабеты па-нашаму гавораць. Згаварыўся з імі: з Масева былі.

— Дзе граніца? — пытаю.

— У нас за гародамі.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Непрыкмечаная выстава

Выстаўка гайнаўскага мастака Пятра Гагана адкрылася 1 жніўня г.г. у Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе і была неад'емнай часткай народнага фэсту, які ў той час праходзіў побач клуба. Трэба з сумам адзначыць, што выстаўку ўдзельнікі фэсту зусім не прыкмецілі. Прычына зразумелая: не хапіла адпаведнай рэкламы з боку арганізатараў.

Праўда, у паведамленнях напаміналася пра выстаўку, аднак публіка не пачула ані слова пра яе ад вядучай канцэрт. А шкада! Бо, як сказала мне дырэктар ГОК, творчасць Пятра Гагана з'яўляецца неад'емнай часткай нашай беларускай культуры і хоць бы таму павінна рэкамендавацца на народных фэстах.

— Напішыце хоць зараз некалькі сказаў у „Ніве", — сказала Тамара Кердалевіч, — бо яго жывое і разнароднае мастацтва вартае ўвагі.

Пётр Гаган нарадзіўся ў 1955 годзе. Закончыў Інстытут культуры і асветы для дарослых у Варшаве. Працуе ў вайсковай часці ў Гайнаўцы на пасадзе кіраўніка жаўнерскага клуба. Адначасова з'яўляецца кіраўніком кіно ў Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Пачаў маляваць у 1972 годзе пад кіраўніцтвам Чэслава Чарнецкага — свайго першага гайнаўскага настаўніка. Аўтар малюе алейнымі фарбамі. Яго карціны адлюстроўваюць прыгажосць натуры, прадстаўляюць краявіды. „Белавежская пушча", „Лавіна", „Сланечнікі", „Макі" — гэта некаторыя загалоўкі карцін.

Творчасць Пятра Гагана не раз экспанавалася на аглядах непрафесійнага мастацтва Гайнаўшчыны, якія арганізуе Гайнаўскі дом культуры.

**Уладзімір Сідарук**

# „Бельская панарама"

У ліпені і жніўні г.г. выйшлі ў Бельску-Падляшскім два першыя нумары штомесячніка „Бельская панарама", якога выдаўцом з'яўляецца Управа горада.

— Запатрабаванне на самаўрадавы часопіс у нас ёсць і ўжо чатыры гады таму мы думалі пачаць выдаваць яго, але па розных прычынах, апрача „Самаўрадавага меркурыя", пастаяннай газеты ў нас не было, — кажа бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк. — Думаю, што ў нашым часопісе будзе многа інфармацыі аб самаўрадзе, бо гэта цікавіць жыхароў нашага горада. Хацеў бы я таксама, каб былі інфармацыі з жыцця горада, каб часопіс стаў месцам дыскусіі аб найважнейшых справах бяльшчан.

У першых нумарах часопіса можам прачытаць пра рэформу школьніцтва, у тым ліку пра гімназіі і кадравыя змены, пра Гарадскі асяродак спорту і рэкрэацыі ў Войшках на беразе ракі Нарвы. Галоўны рэдактар Яцак Пракапюк размаўляе з бурмістрам Андрэем Сцепанюком пра будучыню часопіса, а з яго намеснікам Яўгенам Беразоўцам — пра інвестыцыі ў горадзе. Многа месца адведзена Дням Бельска і спорту.

**Аляксей Мароз**

# Радны не для фасону

Дзесяць месяцаў магчыма і неадпаведны перыяд часу для ацэнкі мясцовага самаўрада, аднак можна і зараз нешта сказаць пра некаторых радных. Адных хваляць у асяроддзі, іншых ставяць на грамадскі суд, паколькі не кожны акуратна ставіцца да сваіх дэпутацкіх абавязкаў.

Пра Янку Кубіцкага ад жыхароў вуліцы Фабрычнай у Чаромсе не пачуеш дрэннага слова, адны пахвальныя. У сваёй кватэры адвёў ён невялічкі куточак і арганізаваў кабінет раднага. Павесіў шыльду і назначыў час прыёму наведвальнікаў. Прызначыў свой хатні тэлефон патрабуючым пазваніць у нечаканых выпадках. Скрупулёзна запісвае пастулаты і прапановы сваіх выбаршчыкаў.

— Я не думаў выносіць сваю кандыдатуру на раднага, — кажа Янка Кубіцкі. — Прапанова выйшла ад Юзэфа Дубковіча, лідэра прафсаюзнай арганізацыі пенсіянераў. А калі я пачаў быў аднекваца, пані Зіна Тарасюк проста заявіла: „Мы за цябе і так усе прагаласуем”.

— Ці прыходзяць да вас людзі ды з якімі справамі? — пытаю суразмоўцу.

— Прыходзяць, і даволі часта. Я падаў дзве прапановы ў час сесіі рады гміны: наконт асфальтавання даезду дарогі ў Беразышчы і вуліцы ў самой вёсцы, ды асфальтавання дарогі да новага могільніка ў пасёлку.

— І які вынік вашых намаганняў?

— Дакументацыя на інвестыцыю ў Беразышчах апрацаваная. Чакаем грошай. Я выступаю супраць „канцэрта па заяўках”, калі кожны радны дабіваецца рамантаваць „сваю” дарогу. І гмінная ўправа далучалася да гэтага, таму заўсёды не хапала грошай на большыя інвестыцыі. Зараз гэта практыка змянілася.

Другая прапанова, пакуль што, атрымала падтрымку радных. Пасля заканчэння квартала радны пасылае ў адрас старшыні рады гміны справаздачу са сваёй дзейнасці.

— Раблю гэта дзеля таго, — кажа Янка Кубіцкі, — каб пазней можна было патрабаваць канкрэтнага адказу ад войта ці праўлення Рады, бо не заўсёды ў пратаколах сесіі знаходзіцца тое, што гаворым. Ды і кожнаму свайму наведвальніку змагу даказаць, што яго праблемы ставіліся на вырашэнне гміннай адміністрацыяй.

Янка Кубіцкі не хоча быць радным толькі для фасону. Самаахвярнай грамадскай працай хоча апраўдаць давер сваіх выбаршчыкаў. Спадзяюся, што гэта яму ўдасца.

**Уладзімір Сідарук**

# Мёдам асаладзіць жыццё

Басейн, драўляная хатка, буслянка на стаўбе, вуллі, вакол садок і разнародныя лясныя дрэвы, а ўсё абсаджанае густою раслiннасцю. Ідучы дарогай, што вядзе з Махнатага ў Старое Корніна, нельга і прадбачыць, што за кустамі згусцілася ў адным месцы столькі прыгажосці акружаючай нас прыроды.



— Купаюся, загараю, слухаю спеву і шчэбету птушак, лаўлю рыбу, а сэнс усяго — прыемна правесці свой час і мёдам асаладзіць жыццё сям'і і знаёмым, — кажа Уладзімір Шэшка, стваральнік „прыродазнаўчага агародчыка”, што распалажаны на ўскраіне вёскі Старое Корніна.

У час размовы ўспамінае ён сваё дзяцінства, калі хадзіў адпачываць у дзедаў лес, ва ўспаміне ў яго і дзедавы пчолы, мёд, і смачная садавіна.

— Так здарылася, што не атрымаў я ні лесу, ні пчол, а ў садзе расло толькі некалькі дрэў. Марыў я, як дзедавы дабрадзействы завесці ў сябе, — расказвае Уладзімір Шэшка. — Калі ў час другой камасацыі атрымаў я на ўскраіне вёскі кусок зямлі, першае, што зрабіў, то выкапаў басейн, завёў рыбу і абсадзіў наўкол сваё поле дрэвамі. Паколькі люблю яблыкі і бывала ў дзяцінстве, што і па дваццаць штук еў, пачаў я заводзіць сад. Толькі некалькі высакасортных яблыняў купіў, а так садзіў дзічкі і рабіў перашчэпы ад знаёмых. У васьмідзесятыя гады працаваў я аграномам у Чыжах, а пасля ў Старым Корніне, то свае веды на практыцы выкарыстаў у садзе. Хіміі ўвогуле не даю, таму яблыкі больш здаровыя. Калі абсадзіў ужо быў агарод, падумаў аб пчолах. Першы рой прывёз ад цесця, і так развяліся. Зараз у мяне пяць вулляў, мёду хапае і для сябе, і знаёмым прадаю. Каля пчол найбольш працы, але мёд я люблю, то і каля пчол ахвотна корпаюся. Тут таксама не карыстаюся хіміяй, не акурваю вулляў і з мёдам пакідаю пчол зімаваць, каб былі мацнейшыя. Добра, што каля майго садка пчолы маюць пажыўнае асяроддзе, бо калі б мусілі далёка лётаць, хутка мучыліся б і атрымлівалася б у іх мала мёду.

Каля басейна драўляная хатка, збоку стоўб, на якім сядзяць буслы, а ўсё гэта зляснымі дрэвамі, што шумяць ззаду, стварае непаўторны краявід.

— Хатку я паставіў яшчэ крыху раней, сам яе праектаваў. Выкарыстаў старыя дылі, а пасля абабіў, памаляваў. Ад дажджу схавацца можна, адпачыць, але я люблю прыроду, то амаль увесь час у агародчыку праводжу, — усміхаецца мой суразмоўца. — Калі падрыхтаваў на стаўбе месца для буслоў, хутка яны прыляцелі і ад гэтага часу штогод жывуць. Быў адзін сухі ход, то іх падкормліваць мусіў, і ў гэтым годзе ім карасёў падкідаю. Рыба абавязкова мусіць ляшчэ варушыцца, бо бусел яе не возьме. У басейне зараз толькі карасі засталіся. Раней я многа рыбы завёў: і ліні, і амуры, і карпы былі, але столькі аматараў рыбы прыходзіла ночу, што не мог адаганяцца! Нічым не мог спыніць начных наведвальнікаў, дык вырашыў рыбу звесці.

Мой суразмоўца ўспамінае васьмідзесятыя гады, калі былі добрыя ўмовы для развіцця садаводства.

— У конкурсе „Дрэвы вакол сядзіб”, які арганізаваны быў у 1988 годзе, я заняў першае месца ў краіне, а ацэньвалася тады колькасць пасаджаных каля сваёй сядзібы дрэў, маючы на ўвазе колькасць сямейнікаў. Калі не прывозіў нейкія яблыні ці грушы, то лясныя насаджваў, а ўсё рыдлёўкай перакапаў. Добра было б, каб і цяпер людзі садзілі дрэвы вакол сядзіб, ды зараз больш вырэзваюць! Каб зрабіць усё гэта, — спадар Уладзімір паказвае раслiннасць ды хатку з вадаёмам, — трэба вельмі любіць прыроду і быць рамантыкам. Я амаль усе водпускі і вольныя дні тут праводзіў, пасля працы добра тут адпачываць, слухаць салаўіныя трэлі...

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# ВЕР — НЕ ВЕР

Мілы Астроне! Сняцца мне нейкія цяжкія сны. У адну ноч мне прысніліся іх некалькі. Вось сніцца, што я гуляю на нейкім балі. Я танцую, але не адчуваю лёгкасці ў танцы. Мне цяжка.

І зараз жа мне прыснілася, што быццам я знаходжуся ў роднай хаце. На двух ложках ляжаць двое хворых, паміраючых людзей. Я гляджу — а гэта ж мой бацька-нябожчык і сястра, якая ўжо таксама памерла. Я вельмі перанялася іх хваробай.

А трэці сон, які мне прысніўся — зусім невядома што! Быццам я сплю, і мне холадна. Я нацягваю на сябе нейкі плед, каб хоць крыху абагрэцца, але бачу, што з яго тырчаць галовы розных звяроў. Яны, вядома, не жывыя, а таксама ваўняныя, як і плед, выглядаюць, аднак, як жывыя.

Вельмі непакоюся. Сэрца маё прадчувае, што сны вельмі кепскія. Напішы, даражэнькі, што мяне чакае.

**Галіна**

Галіна! Твае сны сапраўды кепскія. Твой першы сон пра той танец абазначае, што будзеш ты пра нешта хадайнічаць, старацца, клапаціцца, але нічога з гэтага не выйдзе, усё будзе дарма, хаця будзе табе вельмі цяжка прайсці праз гэтыя справы.

Думаю, што другі твой сон, хаця і сніліся табе блізкія людзі, сведчыць пра нейкія непрыемнасці, а нават небяспеку. Бацька ў сне заўсёды абазначае клопат, а тут яшчэ цяжкая хвароба... Іншая справа, калі б чалавек паміраў спакойна, гэта магло б абазначаць прыбытак, магчыма, звязаны з наследствам.

Цікавы твой трэці сон. Гаворыць ён аб тым, што падсцерагае цябе хвароба. Аб гэтым няўхільна сведчыць той плед. Але што горшае, дык гэта тыя галовы звяроў, што тырчалі з гэтага пледа. Гэта абазначае, што ты апынешся сярод нядобрых людзей і, магчыма, з-за іх — у небяспецы. Ну, што ж, хвароба заўсёды абазначае небяспечны ход падзей, а людзі (свядома ці несвядома) часамі спрыяюць гэтаму. Жадаю шчасліва пазбавіцца ад усіх цяжкасцей, якія станўць на тваёй жыццёвай дарозе.

**Астрон**

# Марафонцы ў Гайнаўцы

Члены Клуба бегуноў „Марафонец” з Зялёнай Гуры, Гожава-Велькапольскага, Кросна-Аджаньскага, Свябодзіна і Костшына-над-Одрай вырашылі абабегчы ўсю Польшчу. З гэтай мэтай арганізавалі яны эстафету па еўрарэгіёнах вакол Польшчы. Спартсмены пачалі бег з Губіна 1 жніўня ў 12 гадзін. Маршрут марафона пралягаў цераз Нысу, Новы Тарг, Загуж, Холм, Гайнаўку, Голдап, Фромбарк, Дарлова, Грыфіна і меў закончыцца 11 жніўня ў Губіне. 6 жніўня марафонцы з'явіліся перад будынкам Гарадской управы ў Гайнаўцы. Жыхары горада сустрэлі бегуноў апладысментамі, а прывітаў іх віцэ-бурмістр Міраслаў Мордань. Ад імя марафонцаў прамовіў намеснік старшыні Клуба бегуноў Мар'ян Татарыновіч. Госці зрабілі запіс у Мемуарнай кнізе горада і абмяняліся з гаспадарамі падарункамі. Спартсменаў суправаджала гайнаўская паліцыя. Марафонцы, падзеленыя на тры групы па 5 бегуноў кожная, змяняюцца кожныя 10 гадзін прабегшы за гэты час 120-130 км. Наймалодшым удзельнікам марафонскай эстафеты быў 22-гадовы Кшыштаф Залэнскі, а найстарэйшым — 52-гадовы Ежы Аўгаф. Беглі таксама дзве жанчыны. Каманду бегуноў састаўлялі 28 марафонцаў.

— А гадзіне $10^{50}$ былі мы яшчэ ў Сямятычах. У Гайнаўцы пераначуем у Доме настаўніка, а заўтра каля 20-й гадзіны будзем у Голдапе, — сказаў Мар'ян Татарыновіч, арганізатар і ўдзельнік мерапрыемства, па прафесіі будаўнік, які працуе таксістам. — У клубе „Марафонец” займаюцца, між іншым, Лешак Рагоўскі — чэмпіён Польшчы на дыстанцыі 100 км ва ўзроставай катэгорыі 50-55 гадоў, Казімеж Конкаль — пераможца марафона „Салідарнасці” ў Гданьску і Вроцлаўскага марафона. Словы прызнання належацца Веславу Каваліку, які пасля двух інфарктаў прыняў удзел у 96 марафонах, у тым ліку ў 10 на дыстанцыі 100 км.

Спартсмены кожны дзень прабягаюць 300 км, а ўвесь іх маршрут налічвае каля 3000 км. Мэтай марафонскай эстафеты цераз еўрарэгіёны вакол Польшчы з'яўляецца, між іншым, інтэграцыя прыгранічных гмін, прапагандаванне бегаў сярод насельніцтва, а таксама ўшанаванне 55 гадавіны Варшаўскага паўстання. Калі ўдзельнікі марафона паспяхова закончаць бег, іх подзвіг можа быць занесены ў „Кнігу Гінеса”.

**Славамір Кулік**

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Міравовіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка



Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

## Запіскі з прыпушчанскага краю

Была свежая раніца, калі ў кампаніі двух сяброў ступілі мы на брукаваную вуліцу Войнаўкі. З фотаапаратамі, рукзакамі. Хацелася сустрэцца з народам, пагутарыць пра праблемы вёскі, пачуць крынічнае беларускае слова.

Па дарозе мы пабачылі, што людзі як ад пошасці нейкай уцякалі, хаваліся. Нават у цэнтры мясціны, дзе дом культуры, малачарня, магазін, аўтобусны прыпынак, скупка грыбоў — ні жывой душы! Пасля дваццаці хвілін чакання ўбачылі мы першага чалавека.

— Чаму, дзядзьку, у вас людзей няма? — папыталі ў непабрытага, хмурнага старажыла.

— А я то ў вас не чалавек?! — адрэзаў дзед ды пачаў частаваць нас лаянкай: — А каб на вас бура! Зноў рабаваць, красці прыйшлі?! А да работы ўзяліся б! Цыганіска вы, ё... м...!

Некалькі добрых хвілін частаваў нас дзядзька сакавітай беларушчынай. Ягоная лаянка, насычаная матамі, нагадвала навагоднюю куццю са скваркамі.

— Дый яшчэ апаратуру носіце! — тыцкаў у нашы фотаапараты. — Ведаю, навошта яны: каб знюхаць, дзе грошы схаваны!

Не толькі ў Войнаўцы ўцякалі ад нас людзі. За цыганоў палічылі нас таксама ў Вілюках і Гурыноўшчыне. Старэчы, асабліва самотныя пенсіянеры, як агню баяцца смуглявых брунетаў. Нават такіх, якім толькі пятнаццаць гадоў.

* * *

З бабуляй Настусяй сядзім на лавачцы ў Вілюках. Пушчанскія людзі любяць размаўляць з журналістамі. Ёсць толькі адна праблема. Расказваюць заўсёды не тое, пра што пытаем. І так... найперш дзве гадзіны пра старэйшага ўнучка, пасля пра малодшага. Той малодшы — няшчаснік ды неўдалота.

— Так як вы, — кажа баба Настуся.

Спазіраем на яе дапытлівымі вачыма.

— Бо гэтаму малодшаму *паньство* працы не дае. І вам каб *жонд* даў работу, то па людзях не хадзілі б, не дурылі б.

* * *

— Dlaczego wszystkie kobiety ze Starzyny pytały: *Czy mąż nie pije?* — дапытвалася журналістка з Варшавы.

* * *

— Напішыце, што ніколі так добра, як цяпер, старым не жылося, — кажа дзядуля з Вілюкоў. — Грошы — і тыя дахаты даносяць. *Склеп* пад брамку пад'язджае. Унукі кожную суботу наведваюць.

Прапануем здымак шчасліваму чалавеку.

— Яшчэ чаго! — бароніцца дзедка. — Возьмеш у рукі тую „Ніву", а там адно спарахнелыя пяньні сядзяць.

— Ага, — ківае галавой сівая дзядулева жонка, — па адным зубе маюць, а яшчэ ў газету пруцца! Вы лепш нашага коціка Васю ў „Зорку" знялі б.

**Ганна КАНДРАЦЮК**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Трыццаць гадоў таму, — дакарае маці дачку, — маладыя дзяўчаты нават яшчэ не чулі пра такое, што сёння маладыя дзяўчаты робяць!

— Таму і не рабілі такога.

* * *

— Ці не здаецца табе, што дочкі нашай загадчыцы вельмі на сябе падобныя?

— Праўда, але між імі ёсць невялікая розніца.

— Якая?

— Адна чытае раманы, а другая тое робіць.

* * *

Рыбак злавіў залатую рыбку, а яна прамовіла чалавечым голасам:

— Добры чалавеча! Я з'яўляюся зачараванаю прынцэсай; пацалуй мяне, і тады мне вернецца людскі выгляд.

Рыбак пацалаваў залатую рыбку і ўмомант стала перад ім прыгожая прынцэса.

— А цяпер, добры чалавеча, споўню тры твае пажаданні...

— У мяне толькі адно, але тры разы!..

* * *

— Ведаеш, Андрэй, прымервала я сабе тую скураную спаднічку і нават хацела яе купіць, але аказалася, што гэта быў паясок.

* * *

— Гэта няпраўда, што цнатлівыя дзяўчаты бегаюць за хлопцамі!..

— А ці ты калі бачыла, каб пастка ганялася за мышшу?

## Пра райскі лёс

*Не думал жить хорошо, но пришлось* — так можна ахарактарызаваць наш цікавы час. Чалавек дабіўся такой перамогі над прыродай, што многія загаварылі пра канец свету нават. Бо ж і цяпер сапраўды, калі паяўляецца нейкае імкненне, яго здзяйсненне — на падачу рукі; калі не ў рэчаіснасці — тады ў віртуальнай дзялянцы. Абы грошы толькі, хаця не так добра з грашыма, як дрэнна без іх...

З'ездзіў я на выпадак канца свету ў рай. Мой эгавоз спыніўся перад варотамі, над якімі красаваўся транспарант *PARODISE*; калі мо чаго добра не запамятаў і перакрунуў нешта — каюся! За варотамі раю араматна цвілі райскія яблыні, шчабяталі райскія птушкі, журчалі ручайкі. А па галоўнай райскай сцяжынцы танцавалі венцаносныя праведніцы і лаўраносныя праведнікі з паўлінавымі пёрамі, а за імі шалясцела зялёненькімі *грантамі, вашынгтонамі* і *лінкальнамі* Дрэва Шчасця.

Я так па райскіх праменадах бадзяюся, разглядаюся і захапляюся. Аж бачу: стоўп нейкі светлы да нябёсаў! Пытаю Анёла-Гіда:

— Хтось там пэўна ідзе ў агромністай такой грамадзе?

— Тутэйшыя.

— Хто ж гэта такі будзе?

— Гэта малы народ Еўропы.

— Адметны чымсьці?

— Гэта *з-весіс* — першы народ, які ўзнік не на грунце мовы ці нацыянальнай свядомасці, толькі з волі спецыфікі лёсу разышоўся з горшым — *з-осіс*.

— А той светлы стоўп то пэўна воблака райскага пылу з-пад ног праведнага народу?

— У раю няма пылу!

— Дык што ж гэта такое будзе?

— А гэта Анёлы-Пракокі, ствараючы народу спецыфіку лёсу ў творчае тарнада так кінуліся, што з іхніх пегазістых крылаў аж пер'е клубом клубіцца.

— А куды ж яны, тыя праракі, той спецнарод кіруюць?

— У цэнтры культуры.

— А як так можа быць, каб больш аднаго цэнтра было?

— У раю райская логіка: кожны Анёл-Прарок мае свой уласны энклаў, які называе цэнтрам. Кожны цэнтр адносіцца да дзялянкі, абмежаванай радыусам сілы ўздзеяння на асяроддзе. Калі радыус імкнецца да бесканечна малой велічыні, тады ў даным асяроддзі можна размясціць бесканечна многа такіх дзялянак і іх цэнтраў.

— І што ў тых цэнтрах робяць?

— Бароняць тоеснасць, культуру і мову.

— Якім чынам?

— Класікі знаёмяцца са сваёй ранейшай творчасцю, распяваюць яе, распісваюць.

— А таму спецыфічнаму народу яна вядомая?

— Безумоўна! Калі вось нейкія фанафанаты захацелі на хвалях хваліць яе, Анёл-Прарок Першы палічыў гэта лішнім.

— Чаго тут узяўсо? — мяўкнуў на мяне Анёл-Леў, прыветліва махаючы пэндзлікам хваста. — „Лінкальна" захацелася грэшніку?

— Хаця віртуальны яшчэ пабачыць. І той народ!..

**Адам МАНЬЯК**

**Міні-слоўнік іншамоўных слоў:**
*paradise* (анг.) — рай.




Мал. Алеся СУРАВА

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. горкая араматная прыправа, 4. прозвішча кіраўніка дзяржавы Беларусь, 6. вялікі паўночны лес, 7. яшчарка сямейства *Agamidae*, 9. сын Ноя, 11. гладкая льняная тканіна, 12. выхад газаў са страўніка праз рот, 13. з мілым у шалашы, 15. паўднёвы плод, блізкі да слівы, 17. кіслая вадкасць для кансервавання прадуктаў, 18. палітычная ўлада духавенства, 19. загляне ў наша аконца.

**Вертыкальна:** 1. невялікая кніжка, 2. мэта грэшніка, 3. разрыхленне і крывачачывасць дзяснаў, выкліканыя недахопам вітамінаў у арганізме, 4. напр, Тоні Блэр, 5. узаемная сувязь паміж асобнымі ўяўленнямі, 6. корм каровы, 8. адмаўляецца ад матэрыяльных выгод і жыццёвых уцех, 9. група спевакоў, 10. пасля красавіка, 14. адпор ворагу, 16. каштоўнасці ў лік будучых плацяжоў, 17. скручаны лазовы дубец.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 29 нумара**

**Гарызантальна:** Малох, Тызенгаўз, франк, аванс, „ЗІЛ", Мялешка, Украіна, Наб, сябра, Дурэс, Сыракомля, замша. **Вертыкальна:** Глінскі, мазок, храпа, тралейбус, заалатрыя, флянс, сінус, Зан, луб, Алькама, адрэз, дамба.

Рашэнне: **Родзімся аднолькава, паміраем розна**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Вользе Дземяновіч** з Варшавы і **Мікалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.